Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 17 кастрычніка 1986 г. № 42 (3348) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Марш міру

Фота Я. КАЗЮЛІ

НА ТЭМУ ДНЯ

## РОЗУМ ПЕРАМОЖА

Сёння на нашай зямлі сонечнае, цёплае надвор'е. Вока прываблівають неяк па-асабліваму выразныя і спелыя, па-восеньскаму насычаныя фарбы. Ночы месячныя, зоркі яркія і здаюцца — зусім блізкія. Прырода, зямля, неба, зоркі вабяць, хвалююць таемнасцю, зачароўваюць бясконцасцю і нязведанасцю. Думаецца пра жыццё, яго багацце і невычарпальнасць, яго прыгажосць і нязведанасць. Думаецца пра той вялікі патэнцыяльны зарад дабра і красы, які нясе ў сабе жыццё ў яго бясконцым самаруху, самаразвіцці. Законам гармоніі падпарадкавана гэтае самаразвіццё.

Нармальная чалавечая свядомасць, свядомасць штодзённага нашага жыцця нават і не дапускае, што ўсё гэта аднойчы раптоўна можа знікнуць, ператварыцца ў попел і дым. А падставы для гэтага ёсць. Ядзернай зброі, зброі самай страшнай і злавеснай, назапашана, накоплена столькі, што жыццё на зямлі, усё жывое можна знішчыць ушчэнт некалькі разоў.

Наша партыя, партыя, якая абараняе інтарэсы самага перадавога класа грамадства, партыя, для якой інтарэсы чалавека, інтарэсы народа вышэй за ўсё, усведамляючы рэальную небяспеку ракетна-ядзернай катастрофы, усе свае сілы і намаганні накіроўвае на прадухіленне ўсеагульнай катастрофы, на стварэнне атмасферы разрадкі і поўнага знішчэння ядзернай зброі. Сустрэча ў Рэйк'явіку — адно з яркіх праяўленняў такой дзейнасці.

Як падкрэсліў у выступленні па савецкім тэлебачанні Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, «мы імкнуліся да таго, каб на сустрэчы ў Рэйк'явіку ў аснову асноў паставіць галоўныя пытанні сусветнай палітыкі — спыненне гонкі ўзбраенняў, ядзернае раззбраенне». Такія пытанні былі пастаўлены — прадумана, рэалістычна ўзважана, глыбока абгрунтавана. Тым больш выклікае недаўменне, засмучэнне і трывогу пазіцыя адміністрацыі Рэйгана. Чаму не прыняты такія сур'ёзныя, збалансаваныя, узаемавыгадныя, патрэбныя ўсяму чалавецтву прапановы савецкай дэлегацыі?! Знайсці нейкі аргументаваны адказ тут цяжка, ды, відаць, і немагчыма. Бо хваравітыя імперскія амбіцыі, інтарэсы шэйлакаў злавеснага ваенна-прамысловага комплексу, празмерна ўзвінчаныя амерыканскай прапагандай ваяўніча-шавіністычныя прэтэнзіі абывацеля з Тэхаса ці Алабамы наўрад ці могуць быць хоць у нейкай ступені аргументам у сённяшнім сапраўды сусветным дыялогу ў барацьбе за мір і раззбраенне.

Не так даўно наш народ, усё прагрэсіўнае чалавецтва адзначыла саракагоддзе завяршэння Вялікай Айчыннай вайны. У жыцці майго пакалення, тых, каму сёння перавапіла за пяцьдзесят, тыя гады пакінулі ў памяці, у сэрцы самы балючы, самы незабыўны след. Адзін з першых дзён вайны. Вечар. Адступаюць нашы салдаты. На фурманках едуць сем'і. Гоняць скаціну. Ржанне коней, мычанне кароў, плач дзяцей, роспачна-трывожныя крыкі жанчын — усё ўспрымаецца дзіцячым розумам і сэрцам як нешта невытлумачальна страшнае, жахлівае. Потым вызваленне. Толькі што прайшоў бой. Жыта асыпаецца. Жанчыны і дзеці хутчэй бягуць жаць. Зжаты першыя жмені і раптам — забіты салдат, далей... адарваная рука. Усё гэта нейкае нерэальнае: гарачае сонца, хлеб і тут жа смерць, смерць як нешта зусім ненатуральнае, недарэчнае, супраціўнае жыццю, чалавечай існасці...

А што можа быць сёння?! Страшна падумаць, немагчыма ўявіць.

І тое, што ў сучасным трывожным, напружаным і распаленым да чырвані свеце менавіта наша краіна, наша партыя камуністаў узначальваюць сусветны рух сіл міру, сіл прагрэсу, узялі на сябе галоўны цяжар адказнасці за жыццё на Зямлі, выклікае сапраўдны гонар і ўпэўненасць у канчатковай перамозе.

Бо за нашым народам, за нашай краінай, за сіламі прагрэсу чалавечы розум, само жыццё.

Серафім АНДРАЮК

## Слова савецкіх пісьменнікаў

Пра гарачую падтрымку шырокамаштабных мірных ініцыятыў, прапанаваных М. С. Гарбачовым на савецка-амерыканскай сустрэчы ў Рэйк'явіку, заявілі ўдзельнікі пасяджэння сакратарыята праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, што адбылося ў Маскве.

На пасяджэнні разгледжаны таксама некаторыя вынікі дзейнасці саюза пасля VIII з'езда пісьменнікаў краіны. Адзначалася, што пісьменніцкія арганізацыі правялі пэўную работу ў духу патрабаванняў XXVII з'езда КПСС. Праведзены сур'ёзныя творчыя мерапрыемствы, у ліку якіх міжрэспубліканскі паэтычны агітрэйс «Днепр і мір», міжнародная канферэнцыя «Лёс сусветнай цывілізацыі ў сацыялістычных літаратурах». Узмацнілася міжнародная дзейнасць СП СССР па прапагандзе міралюбівага знешнепалітычнага курсу Савецкай дзяржавы.

Разам з тым на пасяджэнні адзначалася, што работа Саюза пісьменнікаў яшчэ праводзіцца без пэўнага дынамізму. Звернута ўвага на неабходнасць усямернага пашырэння галоснасці, усіх форм дэмакратызму, узмацнення кантролю знізу.

У пасяджэнні прыняў удзел загадчык Аддзела культуры ЦК КПСС Ю. П. Воранаў.

УНУМАРЫ:

НАВІНЫ ТЫДНЯ

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА НА БЕРАГАХ ЯДРАНА

Звыш 150 беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, майстроў тэатра і кіно прымаюць удзел у Днях культуры Беларускай ССР у Сацыялістычнай Рэспубліцы Славеніі. Белы бусел у чыстым блакітным небе, што стаў сімвалам гэтага сапраўднага свята дружбы і братэрства паміж двума славянскімі народамі, прынёс з сабой мілагучнае беларускае слова, шчырую задушэўную песню на берагі Ядрана.

Нацыянальныя гімны, якія прагучалі 13 кастрычніка пад скляпеннямі Дома імя Івана Цанкара ў Любляне, сталі першымі акордамі Дзён. Беларускую дэлегацыю, усіх удзельнікаў свята сардэчна вітаў намеснік Старшыні Выканаўчага веча Скупшчыны Сацыялістычнай Рэспублікі Славеніі Борыс Фрлец. У адказ выступіла кіраўнік беларускай дэлегацыі, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай. Пасля цырымоніі ўрачыстага адкрыцця Дзён адбыўся канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі. Своеасаблівым сюрпрызам беларускіх артыстаў стала песня «Славенія» на славенскай мове, выкананая Дзяржаўным акадэмічным народным хорам БССР і падхопленая ўсёй залай.

У Славеніі выступаюць таксама Мінскі камерны аркестр, салісты оперы і балета А. Саўчанка, Л. Колас, М. Гулегіна, І. Душкевіч, А. Куркоў, цымбалісткі А. Ткачова, А. Філіпенка, піяніст Ю. Гільдзюк, скрыпачка В. Пархоменка і іншыя. У рамках Дзён праходзяць сустрэчы беларускіх дзеячаў культуры і мастацтва са славенскімі калегамі, працуюць выстаўкі.

У прыватнасці, выстаўка беларускай кнігі размясцілася ў Доме імя Івана Цанкара. Славенскія паліграфісты падрыхтавалі сюрпрыз для яе арганізатараў і членаў беларускай афіцыйнай дэлегацыі. Яны паднеслі ім выдатна аформленую кнігу «Янка Купала» на беларускай, славенскай, рускай і англійскай мовах.

Беларускія выдаўцы падрыхтавалі свае падарункі — кнігу лірыкі Ю. Жупанчыча «У вечным дазоры», якую выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў сваёй папулярнай серыі «Паэзія народаў свету», і зборнік П. Воранца для маленькіх «Падарункі», выпушчаны выдавецтвам «Юнацтва». Творы П. Воранца загучалі па-беларуску дзякуючы І. Чароту. Што тычыцца кнігі «У вечным дазоры», дык яна перакладзена Н. Гілевічам — даўнім прапагандыстам славенскай паэзіі ў Беларусі, дзякуючы якому на беларускай мове ў свой час пабачыла свет і анталогія паэзіі «Маці мая, Славенія».

Завяршаюцца Дні заўтра, 18 кастрычніка, вялікім канцэртам дружбы, у якім выступяць майстры мастацтваў дзвюх рэспублік.

# Дні савецка-ліванскай дружбы

З 19 па 21 кастрычніка ў горадзе-героі Мінску будуць праходзіць Дні савецка-ліванскай дружбы з удзелам дэлегацыі Таварыства лівана - савецкай дружбы ў складзе генеральнага сакратара таварыства, дэпутата парламента Лівана Альбер Мансура, а таксама іншых вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў Лівана, прадстаўнікоў культурных цэнтраў.

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, правядзенне Дзён — яшчэ адно пацвярджэнне плённасці сувязей і кантактаў беларускага народа з іншымі народамі планеты. У праграме гэтага важнага грамадска-палітычнага і культурнага мерапрыемства — знаёмства членаў ліванскай дэлегацыі з жыццём працоўных калектываў Мінска, наведванне знакамітых мясцін горада.

Мінчане і госці сталіцы пазнаёмяцца з выстаўкамі мастака Поля Гірагасяна, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дзіцячага малюнка; фотавыстаўкай.

# ПРА МУЗЫКУ МАЛАДЫХ

«Круглы стол» у Саюзе кампазітараў БССР.

Адбыўся пленум праўлення Саюза кампазітараў БССР, прысвечаны творчасці маладых. У пяці канцэртах прагучала сімфанічная і камерная музыка ўжо вядомых кампазітараў Г. Гарэлавай, А. Гурава, А. Елісеенкава, М. Літвіна, Л. Мурашка, У. Солтана, В. Сярых, іх калег, якія нядаўна прыняты ў творчы саюз, і аўтараў-пачаткоўцаў, у тым ліку студэнтаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Абмеркаванне праслуханых твораў было наладжана за «круглым сталом» у Саюзе кампазітараў. Гаворка пра маладое творчае пакаленне і надзённыя праблемы беларускай музыкі ішла на пленарным пасяджэнні. З дакладам праўлення СК БССР выступіў яго старшыня народны артыст рэспублікі І. Лучанок. У рабоце пленума прынялі ўдзел госці з Ленінграда, Кіева, Кішынёва, Растова-на-Доне, Алма-Аты, Баку, Рыгі, Чэбаксараў, Казані.

Справаздача аб пленуме будзе апублікавана.

С. ВЕТКА

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

# ВЕРНАСЦЬ ПРЫЗВАННЮ

У Доме літаратара адбылася сустрэча з пісьменнікам Уладзімірам Юрэвічам. З 16 гадоў працуе Уладзімір Міхайлавіч на Беларускім радыё. У цяжкія ваенныя гады ён быў дыктарам радыёстанцыі «Савецкая Беларусь».

Цікавасць у прысутных выклікалі кадры кінахронікі часопіса «Беларусь» 1943 года, якія агучваў У. Юрэвіч, а таксама ўспамін Уладзіміра Міхайлавіча пра тыя незабыўныя гады.

У адказах на пытанні прысутных У. Юрэвіч закрануў праблемы стану сучаснай беларускай літаратуры, у прыватнасці дзіцячай, гаварыў аб перабудове творчага працэсу, рэформе школы, развіцці беларускай літаратурнай мовы.

Сустрэчу адкрыў і вёў галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» У. Ліпскі. Перад прысутнымі выступілі рэжысёр перадачы Беларускага радыё «Жывое слова» К. Сафроненка, артысты мінскіх тэатраў

Г. ШАУРА,
студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна

Выступае У. ЮРЭВІЧ.

ВІНШУЕМ

# ВЫСОКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ

**За заслугі ў развіцці савецкай культуры, літаратуры, мастацтва, актыўны ўдзел у камуністычным выхаванні працоўных і паспяховае выкананне заданняў XI пяцігодкі Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў ордэнамі і медалямі СССР работнікаў устаноў і прадпрыемстваў культуры, дзеячаў літаратуры і мастацтва.**

**Ордэнам Леніна — Макараву** Галіну Кліменцьеўну, артыстку Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, народную артыстку СССР.

**Ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі — Крысько** Цімафея Васільевіча (Васіля Вітку), пісьменніка.

**Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга — Корсак** Алімпіяду Вітольдаўну, дырэктара Полацкай дзіцячай музычнай школы; **Сцяпанаву** Ганну Мікалаеўну, ткачыху Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва; **Адашкевіча** Анатоля Аляксандравіча, фарматара Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Дрынеўскага** Міхаіла Паўлавіча, галоўнага дырыжора Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР; **Кагадзеева** Аляксея Пятровіча, галоўнага хормайстра ДАВТа БССР; **Лявончыка** Аляксандра Дзмітрыевіча, артыста Беларускай дзяржаўнай філармоніі; **Аўсяннікава** Генадзя Сцяпанавіча, артыста Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; **Асіпенку** Аляксандра Харытонавіча (Алеся Асіпенку), пісьменніка; **Сідарава** Юрыя Уладзіміравіча, артыста Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага; **Яроменку** Мікалая Мікалаевіча, артыста Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

**Ордэнам Дружбы народаў — Гаманюка** Аляксандра Макаравіча, артыста Брэсцкага абласнога рускага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі; **Канапелька** Зінаіду Ігнатаўну, артыстку Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа; **Казакевіча** Мікалая Канстанцінавіча, мастака Гомельскіх мастацка-вытворчых майстэрань Мастацкага фонду БССР; **Адамчыка** Вячаслава Уладзіміравіча, пісьменніка; **Багатырова** Анатоля Васільевіча, кампазітара; **Гаявую** Валянціну Іванаўну, галоўнага балетмайстра Беларускага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі»; **Гана** Эдуарда Станіслававіча, дырэктара Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Давідовіч** Лілію Міхайлаўну, артыстку Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; **Захарэвіч** Марыю Георгіеўну, артыстку Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; **Кандрацьева** Мікалая Іванавіча, скульптара; **Паплаўскага** Георгія Георгіевіча, мастака; **Чарняўскага** Ігната Цімафеевіча (Ігната Дуброўскага), пісьменніка; **Гусева** Васіля Фёдаравіча, артыста Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.

**Ордэнам «Знак Пашаны» — Клімава** Марата Рыгоравіча, мастака Брэсцкіх мастацка-вытворчых майстэрань Мастацкага фонду БССР; **Мар'іну** Галіну Барысаўну, загадчыцу аддзела культуры Лунінецкага райвыканкома; **Кокштыса** Тадэвуша Антонавіча, артыста Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа; **Маркевіч** Вікторыю Аляксееўну, загадчыцу аддзела культуры Чашніцкага райвыканкома; **Някрасава** Мікалая Аляксеевіча, хормайстра народнага хору Зубаўскага сельскага Дома культуры, Аршанскі раён; **Шутава** Генадзя Фёдаравіча, старшыню праўлення Віцебскай абласной арганізацыі Саюза мастакоў БССР; **Геду** Ганну Нічыпараўну, загадчыцу аддзела культуры Бераставіцкага райвыканкома; **Дулуба** Мікалая Іванавіча, дырэктара Жухавіцкага цэнтральнага сельскага Дома культуры, Карэліцкі раён; **Кірыленку** Эдуарда Васільевіча, дырэктара Гомельскага музычнага вучылішча імя Н. Сакалоўскага; **Кочараву** Таццяну Рыгораўну, дырэктар- Доўскага сельскага Дома культуры, Рагачоўскі раён; **Чальцову** Ірыну Фёдараўну, артыстку Гомельскага абласнога рускага драматычнага тэатра; **Галадка** Мікалая Канстанцінавіча, дырэктара Танежыцкага цэнтральнага сельскага Дома культуры, Слуцкі раён; **Рауцкага** Леаніда Аляксандравіча, выкладчыка Салігорскай дзіцячай музычнай школы; **Асядоўскага** Леаніда Мікалаевіча, выклад-

ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

*МНЕ даўно карцела наведаць гэтую школу, самому ўсё пабачыць і памацаць. Памяркуйце самі: тры тысячы вучняў, сто трыццаць сем настаўнікаў. Але ж дзеці не салдаты і дырэктар школы не палкавы камандзір, вось у чым справа. Выхаванне дзяцей і падлеткаў — справа тонкая, я б нават сказаў, інтымная. Дырэктар — кіраўнік гэтага працэсу. Вось тут міжволі і задумаешся: а ці можа адзін чалавек, хай сабе, як кажуць, і «семи пядей во лбу», пастаянна трымаць у полі зроку столькі дзяцей і настаўнікаў?*

*Матэматыкі сцвярджаюць, што любая сістэма не можа павялічвацца бясконца: ёсць нейкая мяжа, за якой сістэмай кіраваць ужо немагчыма. Дык вось, дзе такая мяжа ў школе? Тры тысячы — гэта многа ці мала, ці мо ў самы раз?*

*Ды і Мяснікова Міхаіла Піліпавіча, дырэктара Магілёўскай сярэдняй школы № 5, пабачыць цікава зблізку: мы, праўда, здаўна добрыя знаёмыя, але ў дырэктарскім крэсле бачыць яго мне не даводзілася, а ў настаўніцкім асяроддзі пра яго можна было пачуць усё, што хочаш, ад «моцнага дырэктара, чулага і разумнага кіраўніка» да «тырана, у якога не школа, а катарга».*

**Школа. Чым яна сёння жыве, як перабудоўваецца! Гэта тэма гутаркі пісьменніка Міхаіла ШУМАВА з дырэктарам адной з самых буйных сярэдніх школ г. Магілёва**

# КЛОПАТ ДЫРЭКТАРА

— І вы прыйшлі падзівіцца на катаргу? — не сказаць каб дужа весела ўсміхнуўся ён. — Глядзіце, уваход свабодны.

**Голас у «тырана» ціхі, слабы, і як я ні ўслухоўваўся — ніводнае металічнаеноткі. Што хочаш, а тыран без металу ў голасе — не зусім паўнацэнны тыран.**

— Так і гавораць — тыран? — зноў-такі не дужа весела ўсміхаецца ён і паціскае плячамі. — У нас працаваць нялёгка, гэта праўда. А дзе лёгка? Можа, вы назавяце школу, у якой лёгка? Сапраўднаму педагогу, сумленнаму ў адносінах да сваёй прафесіі, які мае свой прафесійны гонар, нідзе не лёгка. І я ад падначаленых ніколі не патрабую больш, чым можна. Рытм нашага жыцця, тэмп у нас надзвычай напружаныя: бывае, што навічка хапае толькі на паўгода, год, потым ціха-мірна ён падае заяву... На многія гады застаюцца толькі тыя, хто хоча і любіць па-сапраўднаму школу — гэта касцяк, наша апора.

**Павольна круцяцца ролікі магнітафона, няспешным ручайком цурчыць наша размова, хоць і не сказаць, каб абсалютна спакойна: вельмі часта дзверы прасторнага дырэктарскага кабінета адчыняюцца, і сюды ўваходзяць — хто з паперай на подпіс, хто вырашыць тэрміновае пытанне. Навучальны год скончыўся, у школе не чуваць дзіцячага гоману, толькі недзе наверсе грукаюць малаткі; сіратліва пустуе вялізны, бы ў цырку, гардэроб — як тут зімой кіпіць жыццё! Ад васьмі ранку да васьмі вечара, а, бывае, і пазней.**

— Трэба сказаць, раней з падборам кадраў было лягчэй, — развівае сваю думку дырэктар. — А ў нашай справе гэта амаль самае галоўнае. Яшчэ некалькі год назад у горадзе настаўнікаў было намнога болей, чым месц у школах, так што была магчымасць выбару. Сёння значна цяжэй. У нас хранічна не хапае выкладчыкаў беларускай мовы, чарчэння, хіміі і біялогіі — мусім браць тое, што ёсць, а гэта далёка не заўсёды тое, што трэба...

**Усяго нейкіх восем гадоў, як я пайшоў са школы, а як змянілася ўсё! Помню, тады ў гарана стаяла чарга на выкладчыцкае месца, а цяпер, бачыце, саміх выкладчыкаў не хапае. Праўда, і тады не кожны дырэктар школы мог разлічваць, што да яго трапіць вопытны педагог. Бывала, што прыходу ў школу новага настаўніка папярэднічаў строгі загад «зверху» — прыняць, уладкаваць і ніякіх пытанняў. Зараз жа... Ці, можа, гэта толькі Мяснікову такая прывілея, можа, іншым дырэктарам такой волі ў падборы настаўніцкіх кадраў няма? Можа, і так, а, можа, іншы дырэктар не вельмі абцяжарвае сябе пошукамі, прызвычаены прымаць тое,**

чыка Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута; **Гайду** Наталлю Віктараўну, салістку Дзяржаўнага тэатра музкамедыі БССР; **Главацкую** Лідзію Рыгораўну, майстра Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Гапака** Паўла Юр'евіча, мастака Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Дарашэвіча** Фёдара Іванавіча, мастака; **Дударава** Аляксея Ануфрыевіча, пісьменніка; **Жука** Аляксандра Аляксандравіча, пісьменніка; **Іпатаву** Вольгу Міхайлаўну, пісьменніцу; **Карамазава** Віктара Філімонавіча, пісьменніка; **Карэва** Уладзіміра Пятровіча, артыста хору ДАВТа БССР; **Картэса** Сяргея Альбертавіча, кампазітара; **Крыловіч** Валянціну Міхайлаўну, салістку Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР; **Лясун** Святлану Лаўрэнцьеўну, артыстку Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча; **Ляха** Льва Палікарпавіча, дырыжора ДАВТа БССР; **Маленчанка** Рыму Фёдараўну, артыстку Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі; **Няклаева** Уладзіміра Пракопавіча, пісьменніка; **Пятроўскага** Леаніда Васільевіча, вадзіцеля аўтамабіля аўтатранспартнай канторы Міністэрства культуры БССР; **Рыжанкова** Мікалая Аляксеевіча, скульптара; **Сачанку** Барыса Іванавіча, пісьменніка; **Сяргеева** Таццяну Пятроўну, старшую выкладчыцу Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага; **Станкевіч** Маргарыту Аляксееўну, выкладчыцу Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі; **Тура** Юрыя Мікалаевіча, галоўнага мастака Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага; **Федарэнка** Ніну Барысаўну, выкладчыцу дзіцячай музычнай школы № 3 г. Мінска; **Юхновіч** Галіну Канстанцінаўну, загадчыцу аддзела Дзяржаўнага музея Беларускай ССР; **Ключнікаву** Валянціну Іванаўну, старшага бібліятэкара Каменскай сельскай бібліятэкі, Чавускі раён.

**Ордэнам Працоўнай Славы II ступені — Вязовіч** Валянціну Мікалаеўну, вязальшчыцу Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва.

**Ордэнам Працоўнай Славы III ступені — Кавалёнка** Васіля Іванавіча, брыгадзіра комплекснай брыгады Віцебскага рамонтна-вытворчага камбіната; **Бут-Гусаіма** Пятра Міхайлавіча, цесляра вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя»; **Лісоўскага** Валянціна Іосіфавіча, маляра вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя»; **Малаткова** Дзмітрыя Васільевіча, друкара Мінскага мастацкага вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Шалкоўскага** Эдуарда Францавіча, фарматара Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР.

**Медалём «За працоўную доблесць» — Беразюк** Надзею Сцяпанаўну, загадчыцу Дзівінскай сельскай бібліятэкі, Кобрынскі раён; **Дубава** Георгія Савельевіча, артыста Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа; **Мудрычэнка** Валянціну Аляксандраўну, загадчыцу Тулаўскай сельскай бібліятэкі, Віцебскі раён; **Ткачова** Мікалая Іванавіча, мастака Віцебскіх мастацка-вытворчых майстэрань Мастацкага фонду БССР; **Чарнуху** Валерыя Уладзіміравіча, маляра Віцебскага рамонтна-вытворчага камбіната Міністэрства культуры БССР; **Дароніну** Марыю Іванаўну, выкладчыцу Навагрудскай дзіцячай музычнай школы; **Церабуна** Уладзіміра Васільевіча, скульптара; **Грэсь** Марыю Канстанцінаўну, рэжысёра народнага агіттэатра «Полымя» Стаўбцоўскага раённага Дома культуры; **Карбоўскую** Людмілу Міхайлаўну, фармоўшчыцу Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва; **Асецкага** Людвіга Пятровіча, мастака; **Бялько** Зою Іосіфаўну, дырэктара майстэрні па рамонце музычных інструментаў Галоўнага ўпраўлення рамонтна-вытворчых прадпрыемстваў і забеспячэння Міністэрства культуры БССР; **Власава** Уладзіслава Пятровіча, артыста Дзяржаўнага тэатра лялек БССР; **Грачанікава** Анатоля Сямёнавіча, пісьменніка; **Грышчанкову** Вольгу Іванаўну, старшага бібліятэкара цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска; **Дайнеку** Леаніда Мартынавіча, пісьменніка; **Далідовіча** Генрыха Вацлававіча, пісьменніка; **Забару** Генадзя Іванавіча, артыста Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР; **Клышку** Анатоля Канстанцінавіча, пісьменніка; **Кульпу** Святлану Браніславаўну, салістку Беларускай дзяржаўнай філармоніі; **Курачкіна** Акіма Рыгоравіча, скульптара; **Лянько** Рамана Пятровіча, артыста аркестра Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР; **Нікееву** Нону Сяргееўну, выкладчыцу Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага; **Пракудзіну** Людмілу Васільеўну, артыстку аркестра Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР; **Рылатку** Уладзіміра Пятровіча, начальніка ўпраўлення Міністэрства культуры БССР; **Салаўёву** Алу Анатольеўну, дырэктара Цэнтральнага мастацкага салона Мастацкага фонду БССР; **Тарашкевіча** Уладзіміра Іванавіча, артыста аркестра ДАВТа БССР; **Ханка** Эдуарда Сямёнавіча, кампазітара; **Чабатарэвіч** Марыю Кандрацьеўну, загадчыцу аддзела Літаратурнага музея Янкі Купалы; **Чычына** Мікалая Сяргеевіча, артыста аркестра Дзяржаўнага ансамбля танца БССР; **Парфяновіча** Аляксандра Аляксандравіча, артыста Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча.

**Медалём «За працоўную адзнаку» — Антоненку** Уладзіміра Аляксандравіча, выкладчыка Баранавіцкага музычнага вучылішча; **Кулецкую** Валянціну Пятроўну, мастацкага кіраўніка Раснянскага сельскага Дома культуры, Камянецкі раён; **Салтука** Алега Уладзіміравіча, пісьменніка; **Сарокіна** Пятра Ігнатавіча, галоўнага машыніста сцэны Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа; **Бруса** Васіля Іванавіча, слесара-электрамантажніка Гродзенскага рамонтна-вытворчага камбіната «Тэамантаж» Міністэрства культуры БССР; **Садоўскую** Раісу Цімафееўну, загадчыцу Гнезнаўскай сельскай бібліятэкі, Ваўкавыскі раён; **Сяльверстава** Анатоля Іванавіча, мастака Гродзенскіх мастацка-вытворчых майстэрань Мастацкага фонду БССР; **Кузьмянок** Ларысу Барысаўну, выкладчыцу дзіцячай музычнай школы № 5 г. Гомеля; **Ціхіню** Людмілу Аляксандраўну, загадчыцу Насовіцкай сельскай бібліятэкі, Калінкавіцкі раён; **Пуляка** Мікалая Андрэевіча, дырэктара Яновіцкага сельскага Дома культуры, Клецкі раён; **Сніткова** Івана Глебавіча, галоўнага інжынера Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва; **Брайліцу** Аляксандра Уладзіміравіча, мастака-выканаўцу Вытворчага камбіната Беларускага тэатральнага аб'яднання; **Галыгіна** Анатоля Андрэевіча, цесляра Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Душкевіч** Інесу Анатольеўну, артыстку балета ДАВТа БССР; **Іваніцкую** Таццяну Кузьмінічну, кансультанта праўлення Саюза пісьменнікаў БССР; **Кальмаеву** Людмілу Міхайлаўну, выкладчыцу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута; **Кішэню** Вольгу Піліпаўну, адказнага сакратара Заводскага раённага аддзялення Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры; **Краўчанка** Еўдакію Емяльянаўну, бібліятэкара Дома літаратара Саюза пісьменнікаў БССР; **Крытчанкову** Ніну Андрэеўну, старшага майстра Мінскага мастацка-вытворчага камбіната Мастацкага фонду БССР; **Левікава** Барыса Яўсеевіча, старшага інжынера Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; **Лось** Алену Георгіеўну, мастака; **Мандзіка** Віктара Пятровіча, вадзіцеля аўтамабіля аўтатранспартнай канторы Міністэрства культуры БССР; **Пісецкую** Тамару Ягораўну, загадчыцу сектара аддзела кнігазахавання Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна; **Рабушка** Людмілу Іванаўну, артыстку балета Дзяржаўнага тэатра музкамедыі БССР; **Савіцкую** Ніну Леанідаўну, артыстку Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы; **Скарынка** Галіну Васільеўну, экскурсавода Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны; **Сакалова** Валянціна Дзмітрыевіча, муляра вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя»; **Сакалова** Сяргея Мікалаевіча, артыста Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча; **Чарапко** Нэлу Пятроўну, краўчыху Вытворчага камбіната Беларускага тэатральнага аб'яднання; **Шадзюн** Галіну Сяргееўну, артыстку балета Беларускага фальклорна - харэаграфічнага ансамбля «Харошкі»; **Шэлестава** Уладзіміра Іванавіча, артыста Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага; **Шчарбакову** Таісію Аляксееўну, музыказнаўцу; **Юрэвіча** Уладзіміра Міхайлавіча, пісьменніка; **Брузгіну** Ларысу Пятроўну, дырэктара Уланаўскага сельскага Дома культуры, Шклоўскі раён; **Давыдаву** Эму Іосіфаўну, выкладчыцу Магілёўскага музычнага вучылішча імя М. Рымскага-Корсакава; **Печкурова** Мікалая Аляксеевіча, мастака-афарміцеля Магілёўскіх мастацка-вытворчых майстэрань Мастацкага фонду БССР.

---

**што даюць. Ды і куды працей потым усе няўдачы прыпісаць менавіта настаўніцкай нядбайнасці, ляноце, нядобрасумленнасці.**

**Але вернемся да нашага Мяснікова. Бацюхны, тры тысячы вучняў! А ці трэба мець такія вялізныя школы?**

— Вы сумняваецеся ў мэтазгоднасці існавання такіх вялікіх школ, як наша? Не ведаю, як каму, а мне ў меншай працаваць было не так цікава. Я быў і дырэктарам, і загадчыкам навучальнай часткі невялічкіх сельскіх школ, так што гавару не без падстаў. У нас тут ёсць магчымасць параўнання, разумееце? Што азначае мець дзесяць паралелей—скажам, ад 5-га «А» да 5-га «К»? Гэта ж і розныя настаўнікі, якія робяць адно і тое ж, але кожны па-свойму. Тут ёсць у каго павучыцца і каго павучыць жывым прыкладам калегі. А там, дзе ўсяго 2—3 паралелі або ўвогуле толькі адзін клас—куды і да каго пашлеш маладога няўмеку? У суседнюю школу? Нязручна, ды і толку мала. А да свайго калегі можна прыходзіць хоць штодня, і ён гэта зразумее, з ахвотай дапаможа, бо такая ў нас завядзёнка, гэта ўжо традыцыя. Я люблю адну і тую ж тэму паслухаць у розных класах—якія ж бываюць цікавыя дзеці, як могуць нечакана павярнуць самае трывіяльнае пытанне!

**— Усё так,—не здаваўся я. — Але ж увесь час трымаць у полі зроку сто трыццаць сем настаўнікаў, скіроўваць у пэўным напрамку іх дзейнасць і памятаць, што тры тысячы вучняў патрабуюць пільнай дырэктарскай увагі, штодзённага клопату—не магу зразумець, як вы спраўляецеся ўсё гэта рабіць?**

**Як бы падслухаўшы мае сумненні, Мяснікоў прыводзіць усё новыя і новыя довады ў абарону ідэі школ-гігантаў.**

— У нас, напрыклад, 16 матэматыкаў, гэта значыць, ёсць магчымасць камплектавання з улікам індывідуальнасці кожнага настаўніка: у аднаго, скажам, цудоўна атрымліваюцца ўрокі ў малодшых класах, а ў старэйшых не вельмі. У другога—наадварот. Мы гэта ўлічваем. А паспрабуйце так зрабіць у невялічкай школцы!

**— Помніцца, некалі і я працаваў у вялікай школе — 1200 вучняў, 80 настаўнікаў—і ваяваў з адміністрацыяй, дабіваўся вось такога прынцыпу камплектавання. Дзе там! Дырэктар і слухаць не хацеў, лічыў мяне блазнюком, які хоча, каб толькі лацвей уладкавацца самому, на ўсіх педсаветах і нарадах гудзелі аб неабходным універсалізме, але што зробіш, калі я люблю на роўных спрачацца на самыя розныя тэмы з 16—17-гадовымі падлеткамі, а з малымі губляюся, не разумею іх, і яны не разумеюць мяне? А тут, бачыш, аб гэтым дбае сам дырэктар.**

— Зараз стала больш праблем з адборам моладзі, якая імкнецца ў педагагічныя ВНУ, — як аб нечым даўно набалелым, гаворыць Мяснікоў. — У нас нямала такіх юнакоў і дзяўчат. Мы б маглі сваімі сіламі правесці першапачатковы адбор, каб у настаўнікі пайшлі сапраўды здольныя людзі. Некалі нам нават раілі арганізаваць пры школе факультэт будучага настаўніка. Мы падумалі—і адмовіліся. Чаму? А таму, што па гэтым пытанні недзе наверсе няма ўзгодненасці, пэўнасці. Для гарадскіх выпускнікоў чамусьці ўстаноўлены надзвычай жорсткі ліміт пры паступленні ў педагагічную ВНУ—мы ў бягучым годзе атрымалі права даць толькі дзве рэкамендацыі: адну на фізмат, другую на філфак. А ў мяне сёлета больш за тры сотні выпускнікоў. Я мог бы падпісаць 16 рэкамендацый, і гэта былі б энтузіясты педагагічнай справы, падрыхтаваныя ва ўсіх адносінах людзі. А падпісаў толькі дзве. Ільготы выпускнікам сельскіх школ, на мой погляд, не апраўдалі сябе. Я не кажу, што сярод іх няма здольных юнакоў і дзяўчат. Але льготны прыём у ВНУ адкрывае дзверы інстытута для ўсіх. Па-першае, многія з ільготнікаў, атрымаўшы дыпломы, усімі праўдамі і няпраўдамі імкнуцца застацца ў горадзе і, праўду сказаць, вельмі няблага ўладкоўваюцца. Па-другое, па якасці падрыхтоўкі яны значна ўступаюць нашым выпускнікам, такія ж з іх атрымліваюцца і настаўнікі—як кажуць, «адсюль і дасюль». Маса пасрэдных, малаінтэлігентных настаўнікаў—вось што прынесла нам ільготная сістэма прыёму ў педагагічныя ВНУ. У вёску ж трэба пасылаць самых лепшых, самых падрыхтаваных — хай сабе і на тры абавязковыя гады, але несці ў вёску высокую інтэлігентнасць, сапраўдныя веды.

Асабліва востра адчуваецца розніца ў падрыхтоўцы гарадскіх і вясковых абітурыентаў у гуманітарным цыкле—самым абяздоленым з усіх школьных цыклаў. Я працаваў дырэктарам вясковай школы, ведаю, што большасць вучняў там знаёміцца з літаратурнай класікай па ўрыўках, змешчаных у хрэстаматыях, або проста па падручніках, без самога твора, у лепшым выпадку—па кінафільмах. Але ж там і патрабаваць не заўсёды можна: магчымасці настаўніка літаратуры абмяжоўваюцца магчымасцямі школьнай бібліятэкі. Не дзіва, што былыя льготнікі даходзяць да апошняга курса філфака, а Талстога і Дастаеўскага ведаюць толькі па ўрыўках — я такіх сустракаў нямала. Зачараванае кола: слабы абітурыент—пасрэдны настаўнік—эстэтычна глухія вучні. А давайце падумаем вось пра што: сёння ў горадзе жыве каля 70 працэнтаў усяго насельніцтва, г. зн. педагагічныя ВНУ рыхтуюць кадры, у асноўным, для горада — які ж сэнс у льготах для вяскоўцаў? Не, толькі сапраўдны курс без усялякіх ільгот можа неяк павысіць прафесійную якасць будучых педагогаў.

**— Міхаіл Піліпавіч, вы глядзелі па тэлебачанні сустрэчу з ленінградскім настаўнікам Ільіным?**

— А як жа! Глядзеў і нават двойчы. Мне б такога ў школу!

**— Ну, думаю, Ільін для свайго дырэктара не падарунак! — засмяяўся я. — Чалавек таленавіты тым і вызначаецца, што робіць усё не па стандарту, а па-свойму, як талент падказа, начальства ж гэтага не любіць! Хіба ў вас не так?**

— І так, і не так!—смяецца і ён. — Зразумела, такога чалавека, як Ільін, цяжка мераць звычайнымі меркамі, а наша дзейнасць абмежавана праграмамі, строгімі інструкцыямі, традыцыямі і многім іншым. Але мне, скажам, варта пераканацца, што чалавек робіць справу сваю добра, хоць і нязвыклымі для нас прыёмамі, і можна пакінуць яго ў спакоі: такі захоплены, улюбёны ў сваю справу чалавек няздольны да халтуры, ён будзе шукаць, памыляцца і выпраўляць свае памылкі сам, без старонняга ўмяшання. Галоўнае ж, ён перадасць вучням сваю захопленасць, няўтольную прагу пошукаў, сваю неабыякавасць да ўсяго сутнага. Не, я б не адмовіўся, каб у мяне на кожным прадмеце быў хоць бы адзін Ільін. Гэта ж, ведаеце, каталізатар! За такім чалавекам цягнуцца і іншыя, нават тыя, у каго ён выклікае пратэст.

**— Такія, як Ільін, ёсць у вас?**

— Няма. Добрых настаўнікаў шмат, а такіх вось адчайна-смелых, акрыленых, ні на кога не падобных няма.

**Мы доўга гутарым, мабыць, час ужо і развітвацца, але мы яшчэ не дагаварылі: ужо восем гадоў, як я не варуся ў гэтым катле—што ж змянілася ў школе за гэты час?**

— Вы маеце на ўвазе рэформу?—асцярожна пытае Міхаіл Піліпавіч і паціскае плячамі. — Што такое рэформа? Наіўна было б думаць, што вось выдалі дэкрэт—і на месцы старой узнікне новая школа. Не, школа ў аснове сваёй тая ж, што існуе ў нас дзесяткі гадоў. Я лічу, што рэформа, перш за ўсё, гэта ўздым на новы ўзровень выкладання, работы педагагічных кадраў.

**Ён трохі сумеўся, адчуўшы, што фраза атрымалася звонкай і пустой, як і ўсе агульныя фразы.**

— Што значыць новы ўзровень выкладання?—тут жа пачынае ўдакладняць ён. — Ведаеце, я адрозніваю і маю на ўвазе два паняцці: узровень ведання прадмета і ўзровень інтэлігентнасці. Калі з першым у нас больш-менш добра, то з другім... Часам бачыш — настаўніку хочацца даць больш, чым ён дае, але невысокі ўзровень інтэлігентнасці цягне ўніз. Узровень выкладання—паняцце далёка не простае. Ну, скажам, ёсць цяпер такі прадмет: «Этыка і псіхалогія сямейных адносін». А вядзе яго, скажам, настаўніца, у якой ні сям'і, ні дзяцей, або настаўнік, які кінуў сям'ю, вучні ж пра гэта абавязкова ведаюць. У нас, праўда, гэты прадмет вядзе настаўніца, у якой моцная сям'я, яна маці добрых дзяцей — а ці ўсюды так? Альбо вазьміце ў восьмым класе ўрок палавой гігіены. Вядома, урокі для хлопцаў і дзяўчат ідуць асобна, але ўявіць сабе выкладчыка-мужчыну, ды яшчэ маладога, на ўроку ў «жаночым» класе або, наадварот.

**(Заканчэнне на стар. 4)**

**Васіль ЖУКОВІЧ**



У члена партыі ніякіх прывілей няма, ёсць толькі дадатковыя абавязкі. Гэта ленінская думка адрадзілася зноў — на XXVII з'ездзе партыі. Яна не толькі можа, а і павінна стаць дзейснаю сілай. Толькі тады знікнуць прыкрыя правалы паміж словам і справаю, правам і абавязкам, толькі тады будзе адна для ўсіх дысцыпліна, адна мараль, адзін закон.

Поспех перабудовы залежыць найперш ад пашырэння дэмакратыі, ад галоснасці. І пачынаецца яна, перабудова, з бескампраміснасці ў адносінах да негатыўных з'яў і праяў, з той жа галоснасці, публічнасці. Аднак — пра гэта сказана ў выступленні М. С. Гарбачова перад партактывам Краснадарскага краю — ёсць людзі, якім не даспадобы адкрытае абмеркаванне праблем. Яны пратэстуюць, іх непакоіць, што, маўляў, надта ж многа крытыкі.

Але бяда якраз у тым, што ў нас мала яшчэ крытыкі, вострай, бескампраміснай, адкрытай,мала дзеянняў энергічных, рашучых. Пра гэта гавораць і працоўныя на сходах і ў друку, і калі з імі раіцца партыя, пра гэта гаварылі пісьменнікі на сваіх з'ездах і працягваюць гаварыць сёння ў прэсе. Будзе болей адкрытасці, баявітасці — меней будзе пладзіцца бурбонаў ды прайдзісветаў накшталт Усманава, які, носячы білет з сілуэтам Леніна і маючы ўсе выгоды і прывілеі міністра, беспардонна абіраў народную казну.

Справядлівай крытыкі, як і самой праўды, ніколі не бывае замнога, бо яна служыць дабру, справядлівасці, ачышчэнню грамадства ад усялякай іржы і гнілі, яна спрые парадку, па якім так ссумаваліся людзі. З парадкам будзе багацейшаю і мацнейшаю наша дзяржава, з парадкам будзе больш гарантыі, што і чорная быль Чарнобыля не паўторыцца. Астатняе ў вершах, якія я не мог не напісаць.

Аўтар

## Ветэранам Вялікай Айчыннай

Прыхадняў білі вы, свастыку
нішчылі,
полымя лютай вайны пагасілі,
гмахі узнеслі над папялішчамі,
Вечны
на плошчах
агонь запалілі.

Клопату й сёння зямнога
замнога,
цяжка бывае парой,
ды не плачацца;
недзе за выбухам смеху
пустога
выбухі
вам
спусташальныя
бачацца.

З полымя выйшлі вы
максімалістамі,
наша юнацтва к свайму
прымяраеце,
дзеямі добрымі, душамі
чыстымі
жыць нам,
радзімыя,
вы завяшчаеце.

## Доўгачаканая пара

Успамінаю кожны раз
з гаркотай
той марудны час
банкетаў пышных, трафарэтаў,
і словаблуддзя, і маны,—
дзялкоў пладзіў ён,
прайдзісветаў,
і пранікалі скрозь яны,

бо прайдзісветы і дзялкі
ішлі да мэты напрасткі
і чорным ходам, як вядома
(ці ўсё пра іх вядома
нам!),—
чыны куплялі, і дыпломы,
і «крэслы» дочкам і сынам...

Жылі—як рыбка у вадзе,
мяжы не ведалі нідзе,
яны ні ў чым не зналі меры:
хоць мелі й доўгія рублі, —
пуцёўкі, прэміі, кватэры —
ўсё да сябе яныграблі.

Сумленне ўдарыла ў званы.
Куды схаваліся яны,
дзялкі, хапугі, прайдзісветы!
Цяпер трывожныя ў іх дні:
трашчаць нячыстыя іх мэты;
не ўсе яны ўжо й на кані...

Яшчэ хто галавой прынік!
Той, хто ліслівa жыць прывык,
прывык хавацца за цытаты,
з трыбуны шчодра ліць ялей,
а на банкеце зухавата
чарговы славіць юбілей.

Прыйшла яна, пара збавення,
наватарскага паскарэння,
не прыслугоўвання—служэння
доўгачаканая пара,
пара выгнання з кабінетаў
усіх дзялкоў і прайдзісветаў,
пара высакароднай мэты
і непадкупнага пяра.

## З нашым народам

З нашым народам
бяда—паўбяды,
трэба—і сэрцам растопіць
ільды,
горы высокія зрушыць,
дзікую сілу прыручыць,
раду
ён дасць
усяму,
толькі праўду кажы яму!

Самаахвярнасці ён не баіцца,
з нечысцю біцца—дык біцца!
Пройдзе агонь і крутыя
віры,
знойдзе дарогі
да перамогі,
толькі праўду яму гавары!

## Дарожны дыялог

— У горадзе нядаўна
папаўся казнакрад,
кішэнь сваю з дзяржаўнай
ён блытаў...
— Вось дык гад!

— Ударыў я сатырай
зладзюгу па руках.
Чытаў—хвалілі шчыра
за перчык у радках.

— А ці прыняў рэдактар!
— Такіх не трэба нам,
сказаў: «Не той характар...»
— Дык хто ж тады ён сам!

## Пра самазваных класікаў

Там цішком, а там—адкрыта,
прагна (з візамі, без віз)
нехта пхнецца да карыта,
«дайце!» — вось яго дэвіз.

— Дайце,—просіць зухавата,—
мне пасаду чым вышэй...
Дайце... званне лаўрэата,
стану я вады цішэй.

Зрэдку нават гэтак вее:
— Ці ж не бачыце, пара —
ўся душа мая сівее,—
дайце званне песняра...

Так і ходзяць яны кругам,
ухмыляючыся ўсім.
Не зайздрошчу іх патугам —
жыць таксама цяжка ім.

## Пімену Панчанку

Вы, Пімен Емяльянавіч,
мне не зямляк—маяк.
Я, знаючы што́ пішацца,
скажу, жывецца як.

Наіўны, думаў некалі:
жыццё народным —
рай...
Вастрэе ваш адвечны боль
за гераічны край,
за ўсё, усё прыгожае,
за ўсё, што не ў брані,—
зямнога і духоўнага
ірвуцца карані;

трывогаю хранічнаю
стаў міру, свету лёс.
Вы шчырасцю гранічнаю
хвалюеце да слёз.

У ачышчальным полымі
паэзіі кастроў
гарыць прагрэс
чыноўніцкі,
свет гадаў, махляроў.

Жывецца, ой, нялёгка вам,
пясняр-баец, змагар!
Баліць душа народная,—
вялікі, рэдкі дар.

Хай жыта не развучыцца
жывіць душу, лячыць,
зязюлька не скупіцца хай
гадоў вам налічыць.

## Перабудова, паскарэнне

Мы маем справу
з грамадзянскай
псіхалагічнаю вайной.
Мацнее дух антымяшчанскі,
ваюе праўды свет з маной.

У барацьбе усенароднай
непрымірымыя бакі:
там—подласць,
тут—высакароднасць,
тут—людзі,
там—хлусы, дзялкі,
там—нізасць,
тут—людская годнасць.

## Праблема?

Выбухнула вайна—
знойдуцца і салдаты...
Лёгка злавіць несуна,
цяжка злавіць казнакрада.

Цяжка! Дык грош нам цана!
Зброю бярыце, салдаты!
Лёгка судзіць несуна.
Будзем судзіць казнакрада.

## Прыстасаванцы

Не думаю, што іх мільёны,
ды знаю: ёсць нямала іх,
гаваруноў-хамелеонаў,
глухіх да клопатаў людскіх.

Ім, платным носьбітам руціны
і папяровых завірух,
пляваць на боль, на лёс
Айчыны,
на творчасці высокі дух;

наўме адно—прыстасавацца
да новых спраў, да перамен,
каб болей браць,
прытым старацца
не даць нічога узамен.

## Небяспечная зона

Асірацелі сцяжынкі, двары,
вокны паслеплі, паглухнулі
дзверы.
Дзе вы, палескія гаспадары!
Вунь вас чакаюць антонаўкі,
бэры.

Што ім, садам, зеленеюць
сады,
як і раней, квітнеюць вазоны...
Людзі не вернуцца болей
сюды:
тут—небяспечная зона!

Рэштка жыцця на падворках
пустых—
куры галодныя і кураняты,
з ганкаў ніхто не пакліча
ўжо іх,—
тут не адчыняцца хаты.

Як і куды, небяспека, ідзеш!
Дзе ты замрэш, за якім
кіламетрам!
Што ты з сабой нам сягоння
нясеш,
подых ласкавага цёплага
ветру!

Хто гэта мог бы падумаць
калі,
што пад ласкавай сінечаю
неба
ўзнікнуць на нашай пяшчотнай
зямлі
могілкі вернай карміцелькі
глебы!!

## Сястры Веры

Глуха (хат у сяле не багата).
Ля дарог парахнеюць крыжы.
І твая тут, сястра мая, хата,
тройчы бусел над ёю кружыў.

Ты пражыць не імкнулася
ярка—
у глушы гадавала сыноў;
на нялёгкай рабоце даяркі
цэніш працу, аснову асноў.

Целагрэйка, гумовыя боты
незаменныя, як і раней.
Малако—белы цуд, а работа—
зрэшты, ёсць дзе-нідзе
і чарней.

Не было і няма вінаватых:
па закону глухога сяла
адпачынкі, нядзелі і святы—
ўсе—калгасная ферма ўзяла.

А твае спрацаваныя рукі
зменіць хто, не адкажуць
сыны;
з гарадоў
табе мілых унукаў
зрэдку могуць падкінуць
яны.

І дагледзіш, як іх даглядала,—
прыязджалі б вось толькі
часцей.
Ты грыбкоў, і варэння, і сала
прыпасла для жаданых
гасцей.

Аказаўся і я тваім госцем,
мне твой вобраз усё
даражэй,
а ў душы—невыказнае
штосьці,
хвалявання сляза—усё
бліжэй.

Ты даруй, што тужлівыя
ноткі
у пісьма, у настрою майго.
Не забуду сустрэчы кароткай,
не забыць развітання таго.

Не па доўгу сястры,
не па доўгу
ты была непаўторнай такой:
на дарозе стаяла і доўга
ўсё махала услед мне рукой.

# КЛОПАТ ДЫРЭКТАРА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2—3)

дзяўчыну-настаўніцу з гэтай тэмай перад хлопцамі—і клас, і настаўнік адчуваюць сябе ніякавата, гаварыць на поўны голас аб самым інтымным у жыцці чалавека не асмельваюцца, і гэта зразумела. Дзе выйсце? Ну, мы, праўда, запрашаем урачоў - сексолагаў, але іх вельмі мала, і запоўніць вакуум ды яшчэ ва ўсіх школах яны не могуць. Так што, як ні круці, а агульны ўзровень не павысіўся. І ўвогуле, аб сучасным узроўні выкладання сказаць што-небудзь пэўнае, адназначнае цяжка: матэматыка, фізіка, хімія, замежныя мовы—выкладаюцца, бясспрэчна, лепей, чым, скажам, у пяцідзесятыя гады, а вось літаратура — наадварот, значна ніжэй: Праўда, тады працавала шмат настаўнікаў старой школы, для якіх літаратура была прадметам і эстэтычным.

**Аб школе можна гаварыць бясконца. Вось, напрыклад, мы дзесяцігоддзямі гаворым аб працоўным навучанні, політэхнізацыі школ—а воз і цяпер там, няма ў нас, шчыра кажучы, сапраўднага працоўнага выхавання. Паўтараецца тая ж абрыдлая ўсім гульня ў працу. І выхоўваем адносіны да працы, як да гульні: хачу—гуляю, не хачу — не гуляю, а праца ж—галоўнае ў жыцці. Атрымліваецца нейкі парадокс: мы—першая ў свеце краіна працы, а ў нашых дзяцей адносіны да працы, мякка кажучы, не надта пачцівыя. Права на працу ў нас гарантавана ў любым выпадку, пры любых да яе адносінах,—вось і можна, аказваецца, не даражыць ёй. Я кажу пра гэта Мяснікову.**

— Пасля восьмага класа многія ідуць у ПТВ,—адказвае ён. — Іх там трымаюць 2—3 гады толькі для таго, каб яны адначасова набылі і сярэднюю адукацыю. Для авалодання прафесіяй хапіла б і паловы гэтага тэрміну. Вось і атрымліваецца, што дзяржава цэлы лішні год-паўтара ўтрымлівае бясплатна сотні тысяч маладых людзей!

**Дармаедаў, у думках дадаю я. Бо хто ж не ведае сапраўднай цаны той сярэдняй адукацыі? Неяк прыходзілі да мяне знаёмыя вясковыя дзяўчаты з вучылішча швейнікаў, будучыя швеі-матарысткі, расказвалі пра сваю вучобу ў школе рабочай моладзі—самі з сябе смяяліся і з тых заняткаў. Час ужо адкрыта прызнаць: гэта не адукацыя, а фікцыя. Вельмі, прынамсі, дарагая. Падлеткаў разбэшчвае сама магчымасць атрымання атэстата, без цяжкасці і без ведаў. Потым гэта адбіваецца і на іх працы, і на ўсім іх жыцці. Тыя мае знаёмыя дзяўчаткі паспяхова закончылі дзевяты клас сваёй ШРМ—і не бачылі твораў Тургенева, Някрасава, не чыталі «Яўгенія Анегіна» і «Мёртвых душ».**

**Я не дырэктар школы і магу сабе дазволіць выказаць тое, аб чым маўчыць дырэктар. Давайце, як гаворыцца, назавём кошку кошкай, а так званую сярэднюю адукацыю, якую атрымліваюць навучэнцы школ рабочай моладзі і большасці ПТВ, тым, чым яна з'яўляецца на самой справе — прыпіскай. Дарэчы, калі перавесці гэтую прыпіску на грошы, Міністэрства асветы аказацца рэкардсменам сярод самых злосных прыпісчыкаў.**

— Праблемы, праблемы, праблемы,— кажа Мяснікоў.— Скажам, у нас, у такім вялізным памяшканні, праблема, дзе праводзіць пазакласныя мерапрыемствы, заняткі гурткоў, нават бацькоўскія сходы—ніводнага ж свабоднага ад урокаў пакоя няма, настолькі ўсё шчыльна, упрытык распланавана! Дзе і чым заняць моладзь? У дамы піянераў чатырнаццаці-пятнаццацігадовыя ходзяць не вельмі ахвотна (яны ўжо выраслі!), ды і магчымасцей такіх у дамоў піянераў няма, каб заняць хоць бы палову ўсіх падлеткаў раёна. У дзіцячых пакоях пры жыллёвых канторах таксама адзін пакойчык і адзін педагог-арганізатар — хіба яны ў стане справіцца з масай падлеткаў, заняць і зацікавіць іх? Вось яны і збіраюцца ў пад'ездах. У нас, праўда, з трох тысяч толькі двое на ўліку ў міліцыі, але гэта толькі дзякуючы нашаму кантролю: у мяне ёсць картатэка на ўсе «цяжкія» сем'і, мы іх ні на адзін дзень не выпускаем са свайго поля зроку, штодзённа бацькоўска - педагагічны патруль (класны кіраўнік дзяжурнага класа і двое-трое членаў яго бацькоўскага камітэта) наведвае іх і г. д. Але ж гэта толькі мера, а не вырашэнне праблемы! Трэба шукаць новыя формы работы з падлеткамі, прычым абавязкова сумесна з бліжэйшымі да школы ці групы школ прадпрыемствамі, як гэта зроблена, скажам, у Таганрозе. Вось, на маю думку, школьная рэформа і павінна была б абавязаць прадпрыемствы ўдзельнічаць у гэтай рабоце і фінансамі, і матэрыяламі, і людзьмі—словам, перавесці гэты клопат з разраду добраахвотна - самадзейнага ў разрад абавязкова-адказнага.

**...Мы нетаропка крочым па апусцелым школьным двары. Я скоса пагладаю на мажнога, рослага Мяснікова—ён і аблічам пасуе да сваёй школы, самай вялікай у вобласці. Дэпутацкі значок, баявы і працоўныя ордэны на грудзях. Ён заслужаны настаўнік і лаўрэат прэміі імя Крупскай. Адзін з тых, на кім трымаецца сённяшняя школа, з кім ідзе наперад.**

г. Магілёў

# Галінка з дрэва вечнасці

*В. Казько. Сад, альбо Заблытаны след рамана. «Полымя», 1986, №№ 7—9.*

КУДЫ б ні вялі чалавека дарогі, яны абавязкова вернуцца і на тую сцяжыну, якая пачалася ў маленстве яго, а тады ажывае даўняе — забытае і паўзабытае, радаснае і трывожнае, значнае ў неацэнных вартасцях сваіх і па-сённяшні дзень і тое, што, калі і згадваецца, дык толькі з добрай, цяпер нейкай паблажлівай усмешкай. З падобнага вяртання пачынаецца і новы твор Віктара Казько, названы крыху нечакана — «Сад, альбо Заблытаны след рамана». Зрэшты, будзе ў ім і «заблытанасць», калі аўтару стане цесна ў самім жа прапанаваных абставінах, з'явяцца і раздзелы, быццам далекаватыя ад асноўнага дзеяння, будуць нават развагі аб адметнасці мастацкай творчасці,— пісьменнік прыадкрые чытачу пэўныя сакрэты сваёй творчай лабараторыі. Аднак чым далей будзеш чытаць раман, уваходзячы ў сістэму яго вобразаў, спасцігаючы ўсю таямнічасць, загадкавасць і шматзначнасць іх, тым больш будзеш пераконвацца ў галоўным: новы твор В. Казько праблематыкай сваёй закранае пласты жыцця, якія, будучы спаконвечнымі, сёння ўсё часцей трапляюць у поле зроку і пісьменнікаў, і вучоных, і грамадскіх дзеячаў, усіх, каму дарагі наш агульны дом — Зямля.

**Ужо ў рамане «Неруш» В. Казько паспрабаваў паказаць, да чаго можа прывесці занядбанне элементарных правіл, згодна якім «усё жывое — радня чалавеку».**

**Падобная тэма, па сутнасці, у цэнтры ўвагі і ў рамане «Сад», які — пры пэўнай нацяжцы, зразумела, — можна назваць другой часткай дылогіі, а, магчыма, і трылогіі, калі задумае пісьменнік яшчэ адзін раман — пра роднае яму Палессе, абнаўленне старадаўняй зямлі і пра тое, што абнаўленне гэтае не заўсёды дае толькі добрыя вынікі. А яшчэ — пра чалавека Палесся, які, адчуўшы ўладу над зямлёй, ніколі не мае права забываць, што і яна, гэтая зямля, — таксама па-ранейшаму мае ўладу над ім.**

Сад — своеасаблівы вобраз рамана. Ён — увасабленне нязгаснасці, неўміручасці жыцця, яго вечнай квецені. Адначасова Сад — прырода, безабаронная перад чалавекам. Так ужо сталася, што ўсе падзеі больш-менш значныя ў жыцці вёскі, звязаны з ім. Сад высякаўся ў гады вайны і аднаўляўся пасля вызвалення. Рос, квітнеў і, здавалася б, радаваць людзей сваім харством яму вечна. Ды толькі зноў хіжыя рукі паквапіліся на прыгажосць, зноў палі долу дрэвы, што сама ўвабраліся ў сілу.

З Садам звязаны ці не найлепшыя згадкі і ў жыцці героя-апавядальніка. З ім — і боль яго, і туга па незваротнасці пражытага, і пакутлівы роздум над тым, як жа здарылася, што людзі не толькі развучваюцца разумець прыгожае, але і падымаюць сякеру на саму памяць. На памяць кожнага і ўсіх. «Чаму ж развал і разруха пануюць над нашай хатай, разбураны, па цаглінцы раскіданы печы, што саргавалі нас, пабіты вясёлыя вокны, узадрана падлога, што спявала нам? Паздзіраны шыфер з даху. Хто вінаваты ў гэтым, хто дапусціў такое, чаму я саромеюся сябе, калі іду міма сваёй хаты?»

Пытанне і сабе, і іншым. У аднолькавай ступені і з аднолькавай патрабавальнасцю. З гарачым жаданнем: «Не мог адстаяць, дык павінен хоць расказаць, як усё было. І няхай як атрымаецца: было, не было, магло быць. Як гэта пачыналася, як складалася, прыдумка з болем скручвалася». На экране памяці героя-апавядальніка зрокава-выразна высвечваецца рэальнымі абрысамі ўсё, што было з ім самім, з людзьмі, якіх ён ведаў, з чыім лёсам у розныя гады пераплятаўся яго лёс.

На гэтым фоне чалавечых страсцей, драматычных калізій і сітуацый усё выразней і рэльефней бачыцца постаць Мар'яна Іванавіча Знаўца — колішняга дырэктара дзіцячага дома, не проста педагога, а менавіта Настаўніка. Характар па-сапраўднаму народны, ён увасабленне самой народнай педагогікі, якая здаўна мацавалася не на тэарэтычных разважаннях аб выхаванні падрастаючага пакалення, а на практычным далучэнні чалавека з маленства да актыўнага жыцця.

Не сказаць, аднак, каб аўтар ідэалізаваў свайго героя, але недахопы Мар'яна Іванавіча, бачым мы,— працяг яго вартасцей. Ці не таму ніхто з вяскоўцаў не памятае і аб нядоўгім старшынстве Знаўца, і аб гадах, калі ён служыў у арміі, бо для ўсіх ён найперш настаўнік.

Гэткім жа ўвасабленнем добрага, чыстага і — гэтае слова ў дадзеным выпадку, бадай, найбольш падыходзіць — святога паўстае ў рамане загадчык вясковага клуба, ён жа, як зазначае аўтар, «начальнік ракі» Уладзік Саліла. Сваю ўлюбёнасць у прыроду ён не хавае ад іншых, а імкнецца да таго, каб вяскоўцы зразумелі, якая гэта радасць — адчуваць сябе паяднаным з наваколлем, калі, здаецца, кожнай клетачкай зліваешся з тым, што акружае цябе, жыве ў тваёй свядомасці з маленства.

**«Ды дзеля аднаго толькі гэтага варта паміраць, выбухаць, губляць памяць, варта жыць. І дзе, у якім краі ёсць яшчэ такое? Ці можа зямля стварыць яшчэ большы цуд? Не і не. Хай жа будзе навекі благаслаўлёная зямля, якая так радуе. Навекі стаяць табе, навекі цешыць чалавека, і хай не зводзяцца род звярыны і род людскі».**

**«Пра род звярыны і род людскі» — пісьменніцкі і грамадзянскі клопат В. Казько. Ён стварае паэму ў прозе, якая апявае харство бацькаўшчыны і адначасова выбухае суровым абвінавачаннем, асуджаючы тых, хто ператварыў і ператварае вёску ў часовае прыстанішча для задавальнення сваіх спажывецкіх прыхамацей. Гэтыя наезджыя начальнікі і начальнічкі абкрадаюць не толькі прыроду, наносячы ёй непапраўную шкоду. Яны і сярод вяскоўцаў сеюць зерне марнатраўства і абыякавасці.**

Гаворыцца гэта не ў абарону самой вёскі перад светам і людзьмі. Не з жадання супрацьпаставіць святую і чыстую патрыярхальнасць вясковага ўкладу гораду, ад якога, маўляў, і ідзе ўсё зло. Усё куды больш складаней. Гэтая складанасць і адлюстравалася ў рамане В. Казько. Калі з Місцюкамі, якія жывуць па прынцыпе: абы больш узяць, усё больш-менш вядома — нездарма кажуць, яблык ад яблыні, дык адкуль з'явіліся ў вёсцы Вовік-алкаголік, Іванчык-дэзерцірчык, прасвітар мясцовай абшчыны баптыстаў дзед Калістрат?! Не толькі ў вёсцы, пра якую расказвае В. Казько, а ў вёсках наогул? Дзе было ўзрошчана насенне, якое і на вясковай глебе дае ўраджаі п'янства, дармаедства, іншых негатыўных з'яў? Гэтыя аспекты паўсядзённасці таксама даследуюцца пісьменнікам. Раман — свайго роду кардыяграма шматграннага жыцця сённяшняга беларускага сяла. Як А. Кудравец у «Сачыненні на вольную тэму», як І. Пташнікаў у «Алімпіядзе» — а менавіта гэтыя творы вызначаюць сёння стан і дасягненні нашай прозы аб сучаснай вёсцы, — В. Казько стварае яркія і каларытныя чалавечыя характары.

І сам Мар'ян Знавец, і Уладзік, і дзед Ахрэм — не проста ўдала пададзеныя мастацкія вобразы, а характары-тыпы вялікай ідэйна-мастацкай напоўненасці. Поруч жа зноў тыя, хто нічога большага, чым звычайнай пагарды, выклікаць не можа. Ды толькі чаму адной пагарды? Ці не хаваецца за гэтым наша жаданне ні ўва што асабліва не ўмешвацца, калі да пары да часу як быццам межы дабрачыннасці і не пераступаюцца? Маўляў, чаму мне патрэбна больш, чым іншым. Пройдзе ж час, і глядзіш,— зроблена непапраўнае. Шлях Янота і Шурупа ад звычайнага браканьерства да забойства пачынаўся з таго моманту, калі большасць вяскоўцаў ужо ведалі ці здагадваліся аб іх паводзінах, ды зноў жа асабліва не вытыркаліся наперад, спадзеючыся на іншых.

Само жыццё ў рамане то хуткаплыннае, вірлівае, то засяроджана-спакойнае. Такое, якое і ёсць на самой справе. Але аўтар не фатаграфуе рэчаіснасць, а даследуе яе, узнімаючы важкія пласты. Адсюль — і акцэнтоўка ўвагі на тых ці іншых персанажах, хоць у полі зроку пісьменніка нязменна застаецца Мар'ян Знавец — як увасабленне аўтарскага ідэалу дабрачыннасці. У нашым жа чытацкім уяўленні такім аўтаномным персанажам бачыцца і сам аўтар-апавядальнік. Найперш у эпізодах, дзе В. Казько адмаўляецца ад паступовага разгортвання сюжэта і пераходзіць да лірычных адступленняў.

**Публіцыстычнасць твора, яго гуманістычны пафас, жыццесцвярджальнасць узмацняюцца дзякуючы таму, што ледзь не з першых старонак В. Казько ўмела ўводзіць элементы прытчавасці, карыстаецца міфапаэтычным пачаткам. Падобнае заўважалася ўжо і ў «Нерушы», але, як нам здаецца, менавіта ў «Садзе» талент пісьменніка ў гэтым кірунку раскрыўся сваімі лепшымі якасцямі. Калі ў папярэднім рамане часам заўважалася пэўная ненатуральнасць ужывання гэтых элементаў, дык на гэты раз дасягнута тая цэласнасць, якая сведчыць аб дакладнай прадуманасці кожнага кампанента, што, як быццам, знаходзіцца па-за рэалістычным увасабленнем жыцця і падзей, а на самой справе дазваляе рабіць гэта яшчэ больш глыбока, шматгранна, непаўторна.**

Быццам вялікі пакутнік і неўтаймаванец блукае па зямлі зубр Сноўдала. Падуладны голасу продкаў, ён робіць тое, што запраграміравана ў яго памяці недзе ў глыбокай мінуўшчыне. Сённяшні Сноўдала — гэта і ён сам, і адначасова тыя зубры, якія жылі на зямлі калісь: «У гэтым жыцці яго не раз забівалі. А недзе з паўвеку назад забілі, здавалася, назаўсёды». Ды толькі выжыў Зубр дзякуючы клопатам чалавека. Выжыў, але не забыў нічога — не толькі добрага, а і благога. І ўжо не сённяшні Сноўдала бяжыць пушчай, а яго далёкі продак. Уцякае ад паляўнічага, ратуючы ўласнае жыццё.

«Вось так, як сёння Барталамеус за ім, ганяўся ўжо на яго зубрынай, звярынай памяці чалавек за чалавекам. І той, што ўцякаў, быў, як і ён, Сноўдала, апошнім у родзе. Апошнім яцвягам, і звалі яго таксама Сноўдалам».

Праблемы экалогіі, чалавечай памяці і шмат якія іншыя ставяцца аўтарам «не ў лоб», не на прамую, калі сама публіцыстычнасць можа лёгка «заціснуць» мастацкасць у пракрустава ложа зададзенасці, дыдактызму. Хоць часам пачуццё меры пачынае страчвацца. Усю ўмоўнасць гаворкі прымаеш, але неяк ненатуральна, напрыклад, выглядае ў рамане сцэна, калі Сноўдала выходзіць на шашу і спыняецца перад помнікам братам Знаўцам — Івану і Міхаілу. Размова, якая адбываецца паміж імі, быццам выпадкова трапіла ў кампазіцыйна-стройны арганізм твора.

Там, дзе асабліва адчуваецца дакументальная аснова, калі-нікалі дае знаць аб сабе рэпартажнасць. Імкнучыся паказаць «бездапаможнасць... усёй вёскі перад жыццём», аўтар нагрувашчвае сюды дэталі, падрабязнасці без іх належнага асэнсавання. І тое, што закрываецца школа, што зусім мала ў сяле вучняў, — правільна. Але ж менавіта ад В. Казько — каму шмат талентам дадзена, ад таго і патрабуецца больш — хацелася б не простай рэгістрацыі таго, што ёсць... Дарэчы, гэтае «большае, чым ёсць» якраз і прысутнічае ў заключных старонках рамана, дзе пісьменнік расказаў пра сваё жаданне дапамагчы вяскоўцам у пабудове дарогі, аб якой усе — ад старога да малога — марылі.

Уся гэтая дарожная «адысея» выпісана праўдзіва і грунтоўна. Адразу бачыш не толькі добрае ў вясковым укладзе жыцця, а і негатыўнае, якое і раней было ды і цяпер усё мацней пускае свае карэнні. Калі тычыцца канкрэтнай справы, а не проста разважанняў пра неабходнасць будаваць дарогу, многія пачынаюць падыходзіць да гэтага з пазіцый мяшчанскага правіла: мая хата з краю. Калі ж дарогу нарэшце пабудавалі, дык яна як быццам нікому і не патрэбна: «...кепская, кепская справа, той асфальт. То раней і месяц, і другі ні міліцыя, ні рыбнагляд нагой не паткнуцца, а цяпер за дзве мінуты па тры разы на дзень даскокваюць». Вось і паспрабуй, зразумей псіхалогію вяскоўца. Большасць жа прыроду любяць, і калонію баброў ахоўваюць, але... Каб гэтую самую гармонію ўласнымі сіламі падтрымліваць. Без рыбнагляду, без міліцыі... Аднак аб гэтым, магчыма, В. Казько яшчэ паразважае іншым разам.

**Шмат якія з праблем, закранутых у рамане, патрабуюць яшчэ свайго прынцыповага і канчатковага вырашэння. Усе кропкі над «і» не пастаўлены, ды і не патрэбна гэта. Іншым кіраваўся пісьменнік, калі разблытваў сцежкі ўласнай памяці. Расказваючы пра сад свайго маленства, ён у першую чаргу агаліў тыя струны душы, якія чуйныя да чужога болю і на якіх, бы на дзіўным камертоне, агучваецца ўсё тое, што хвалюе і кожнага з нас.**

**Усім сваім пафасам раман абуджае грамадзянскую свядомасць чытача. Ён напісаны ў рэчышчы праблем часу, якія гучаць са старонак «Кар'ера» В. Быкава, «Плахі» Ч. Айтматава, «Пажару» В. Распуціна, «Тужлівага дэтэктыва» В. Астаф'ева. У душы героя-апавядальніка «Саду» таксама шугае своеасаблівы пажар, азараючы сваім агнём усё, да чаго ёсць справа сумленнаму чалавеку.**

Полымя гэтае нельга не заўважыць, бо яно высвечвае многае з таго, да чаго ёсць справа кожнаму з нас. Павінна прынамсі быць. Ці не з гэтай заклапочанасці пачыналася барацьба за адхіленне варварскага — іншага слова і не падбярэш — праекта перакіду вады паўночных рэк, якая нарэшце завяршылася паспяхова. Ці не яна — па-грамадзянску сумленная, па-партыйнаму адкрытая — рухае тымі, хто працягвае барацьбу за будучыню Байкала. Інакш і нельга, бо супраць зла можна змагацца толькі наступальна, агульнымі сіламі і абавязкова, калі наперадзе будзе той, хто скажа першае, важкае, а значыць і самае значнае слова.

Сёння да слова пісьменніка не могуць не прыслухоўвацца нават людзі, далёкія ад літаратуры. І гэта абнадзейвае, бо раней...

У дні, калі прыйшоў чарговы нумар «Полымя» з заканчэннем «Саду», у «Московских новостях» (№ 36, 7 верасня 1986 г.) давялося прачытаць, што толькі ведамасныя амбіцыі не дазволілі ў свой час таму-сяму адмовіцца ад будаўніцтва на беразе Байкала цэлюлозна-папяровага камбіната: «Гаспадарнікі прызнаваліся потым, што можна было і не будаваць, ці пабудаваць у іншым месцы, але вельмі ж ужо не спадабалася ім непрымірымая пазіцыя грамадскасці.

— Што пісьменнікі, акцёры ў гэтым разумеюць? — адмахваліся «спецыялісты». — Нам больш бачна, дзе будаваць і што. Не будуць жа яны намі камандаваць!»

Прадбачу пярэчанне: пачаў пра раман, а ператварыў гаворку ледзь не ў практычнае значэнне твора для паўсядзённага жыцця. Маўляў, зноў пра надзённасць тэмы... Што наконт гэтага сказаць. Тое, што сапраўдная літаратура ва ўсе часы была люстэркам грамадскага жыцця? Аднак навошта падобная «абарона»? Гэта ж толькі першае ўражанне пра твор, які — у чым сумнення быць не можа — будзе мець яшчэ не адзін крытычны водгук.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Пазнаванне сапраўднага

*Янка Брыль. Сёння і памяць. Апавяданні, мініяцюры, эсэ. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.*

Што сёння баліць чалавеку? Што найперш адгукаецца ў душы яго? Якую пустэчу гоіць, спаталяе слова? І чаго ўрэшце шукае чытач у лірычнай прозе?

«Крытык адчувае сябе паміж Парнасам і пісьменнікам, а месца яго — паміж пісьменнікам і чытачом». Паспрабуем жа прыступіцца да свайго месца. І тут нас забіраюць шчырыя, спавядальныя словы майстра пра шчасце і наканаванне — пісаць. Залежаць ад свайго жыццёвага вопыту і жадання быць пачутым, зразуметым. Жыць з немагчымасцю пазбавіцца ад сумненняў: ці так пішацца, ці ўсім патрэбнае, ці па праву? Кожная ж драбніца быцця невычэрпная, і за кожнаю можна ўбачыць цэлы свет. І ўсё ў сусвеце універсальна ўзаемазвязана. Лірычная мініяцюра ад першай асобы высвечвае з бясконцасці камбінацый сувязь самую істотную, неабходную сёння. А якая істотная і неабходная — вызначыць толькі чуйнасць мастака, яго густ, яго сумленне. І грамадзянская мужнасць. Хоць бы ў крэўных, у літаратурных справах: «На адным з нашых з'ездаў ці пленумаў К. пачуў, як другі К., маскоўскі, казаў камусьці, што беларуская літаратура — «детский лепет». Расказваў мне наш таварыш пра гэта абурана, а я вось, чытаючы А. Лебедзева пра Грыбаедава, думаю, што ёсць не толькі «Горе от ума», **адзін з твораў** вялікай рускай літаратуры, але ж і многа глыбокіх даследаванняў пра яго. І як гэта, на жаль, пакуль што аб'ектыўна правільна — пра «детский лепет», і нічога тут няма абразлівага». Або такі запіс: «Збор твораў Максіма Гарэцкага, нарэшце, рыхтуецца. Ён выйдзе пакуль што няпоўным. Не будзе ў ім і той раскошы каментарыяў, розначытанняў, якую мы ўдзячна прымаем у зборах твораў, скажам, Талстога, Чэхава, Дастаеўскага... Як добра яны чытаюцца, тыя грунтоўныя каментарыі, жывыя старонкі гісторыі літаратуры, якія гэта выдатны матэрыял для пажыццёвай самаадукацыі! Таварышы, якія працуюць над падрыхтоўкай да перавыдання спадчыны Гарэцкага, павінны памятаць, што і творчасць, і вобраз гэтага пісьменніка ўсе мы павінны, абавязаны захаваць і падаць чытачу ва ўсім гучанні яго шматграннай паўнацэннасці. Адно зробіцца сёння, другое заўтра, для больш поўнага выдання, аднак яно павінна рабіцца з усёй грамадзянскай адказнасцю перад нашай гісторыяй, перад нашым народам, перад светлай памяццю аднаго з нашых найзначнейшых пісьменнікаў».

Мастацкі зрок Я. Брыля моцны сваёй праніклівасцю. Акрамя непазбежнага гіпнатычнага ўплыву на чытача брылёўскага аўтарытэту, пры чытанні адбываецца пазнаванне сапраўднага: прастаты, трапнасці, неразмернасці. Без лішняга пафасу, дакладна і страшна: «....—Зарэж карову. Зачэм цябе дзве?».

Так яно пачыналася — забіванне любові да гаспадарання на зямлі.

Помніцца недаўменне таго чалавека, гаспадара: як гэта так — узяць ды зарэзаць карову?! А потым яно, недаўменне такое, патроху прайшло».

І ўсё ж такі галоўнае ў кнізе «Сёння і памяць», здаецца, — хараство, прыгажосць. Напалову з усмешкай, з настальгіяй, вельмі часта напалову з трывогай. І ў балючым лёсе вясковай старой пісьменнік дае нам убачыць высокую прыгажосць. Трэба толькі ўмець прыняць да сэрца родны краявід, умець слухаць блізкага і больш аддаленага чалавека. Умець, як сказана, радавацца. І працаваць.

«А такое: адзін дзядзька сядзеў у кузаве, на ячмені, і, калі праязджалі ў вёсцы пад вішнямі, застукаў па кабіне: «Стой, вішаньку сарву!..» І такое: вясёлы дзядзька-брыгадзір пытаўся ў Данусі, як ёй тут з дзедам і бабай жывецца, хто яе тата і мама, і прачытаў ёй Броўкаў верш «Пахне чабор», — не ўвесь, вядома, а трохі. І сказаў, што гэтага паэта ўжо няма, памёр.

Напішы апавяданне — будзе сентыментальна, асабліва калі па радыё якая-небудзь «цёця» дадасць сюды і свайго яшчэ соладу».

Сапраўды, вельмі няпростая гэта справа — лірычная проза, у ёй мяжа паміж, скажам, пачуццём і гіперчуллівасцю, страсцю і спрэспатэтыкай, думкай і дэкларацыяй бывае асабліва тонкай; многае патрабуецца, каб гэтае «вішаньку сарву» ўспрымалася як факт мастацкі.

Занатаваныя Я. Брылём «залацінкі» жыццёвыя назапашваюцца, як скарб, як паратунак для душы ў чорную хвіліну. Дабро і чалавечнасць павінны назапашвацца як аплот нашага аптымізму. Тут заважыць і вялікае, і малое. Пра сціплую, але найсапраўднейшую праяву сардэчнасці паміж проста знаёмымі Я. Брыль піша: «Няўжо і такое павінна праходзіць бясследна?» Нішто ў свеце бясследна не знікае. А на пачатку ўсяго — дзіцячая, юнацкая чысціня і ўражлівасць, без якіх немагчыма дарослая міласэрнасць.

Вернутыя Я. Брылём з нябыту «залацінкі» адпавядаюць і натуральнай чалавечай празе самасцвердзіцца, самавыявіцца, і ўзбагачаюць нас, рацыянальных. Вось у гэтым сэнсе: «В конечном счёте жизнь есть то, что человек видит; её он старается удержать в памяти и воспроизвести средствами искусства». (Выпісана з Кента, з воклічам: «Бог мой! Дзе тая Аляска, а як гэта блізка!») І сцвердзіць праз сябе — а як жа інакш? — жыццё ў яго найлепшых, найвышэйшых праявах, так патрэбных сёння ўсім.

Адна з абавязковых перадумоў існавання лірычнай мініяцюры, эсэ як жанру — высокая філалагічная культура. Тут не толькі слова, якое ўражвае, якое смакуеш, як той рускі хлопец, герой аднаго з запісаў, беларускае слова са смакам паўтараў, прывыкаючы да нашай вёскі, да мовы: «Панцак! Ланцуг! Абцэнгі!» У Я. Брыля — і музыка слова, і чароўнасць любімай кнігі «з усёй абаяльнасцю «яцяў», і магія з дзяцінства знаёмага вершаванага радка, — усё гэта абавязковыя прыкметы душэўнага жыцця, і ўсё вытанчана лададзена. Філалагічная культура дзе-нідзе, здаецца, і палоніць мастака, бярэ з яго сваю даніну, замыкаючы ў коле вузкалітаратурных імёнаў, падзей, дат. Вядома, па-свойму значных, інфарматыўных, ды ўсё ж эмацыянальна аднамерных. (Ну і лексіка, слоўца простага не скажам, майстра ўжо дзесяць разоў агаварыўся б, накшталт: «У мора, модна кажучы, поўны рэлакс...»).

Улада пісьменніка над словам выяўляецца і ў гэтай вось дыстанцыі, якая схоплівае славутага няўлоўнага «лірычнага героя»: «дзяўчынка, па-бабску кажучы, — зусім яшчэ маладзенечкая», «скажам, як сказаў бы нейкі спаважны і суровы дзядзька: — Добра з малымі папесціцца...» І лірычны герой тут— не баба і не дзядзька, вядома, а той апавядальнік, які, гаворачы, адначасова ўжо чуе і адчувае стылёва сваё выказванне. З нязменнай цікавасцю да сваіх герояў піша Я. Брыль пра вясковых людзей. Тут і моладзь, і дзятва (вясковая і бадай што гарадская), і старыя; тут і знаёмыя брылёўскія дасціпнікі, і проста сардэчныя людзі. І не без паганцаў. Любасць да простых дзядзек і цётак, смакаванне вясковага слова, жэсту, існасці адчуваецца ў кнізе адразу. І так па-свойму, па-вясковаму ўсміхаецца — цудоўныя аднародныя азначэнні. Гаворка пра дарагое неназаляе, яна вядзецца праз адкрыццё звычайнай, часта суровай наяўнасці. І часта наяўнасць гэтая шчымлівая сваёй сціпласцю. Вось робяць фотаздымак для кнігі «Я з вогненнай вёскі...»: «Гадоў дзяўчынцы каля дзесяці, а можа, і трохі больш. Босыя ножкі, вельмі старанна ступленыя ступачкі, светла-стракатая караткаватая сукеначка, просценька мілы, пасур'ёзнелы перад аб'ектывам тварык. Яшчэ адны чыстыя, ясныя вочы народнай несмяротнасці». А вось як мелася на ўвазе расказаць нам (і расказана) пра яшчэ аднаго добрага чалавека: «Так і запісана было, што першы цуд — Ірынка». Цуд — і не інакш.

«Сёння і памяць», па-анатацыйнаму вызначэнню, гэта кніга апавяданняў, мініяцюр і эсэ, кніга філасофскага роздуму пра з'явы нашай сучаснасці, пра чалавечыя лёсы і характары. А што можа быць больш простым і больш складаным за гэты самы філасофскі роздум? Ён просты відавочнай натуральнасцю адкрытага нам сэнсу, і ён складаны той глыбай індывідуальнага і ўсеагульнага чалавечага вопыту, той глебай, з якой толькі і могуць прарастаць аксіёмы: «...Я многіх блізкіх перажыў, нямала пахадзіў ды паездзіў, паплаваў ды палятаў, пабачыў многа рознага, у тым ліку, вядома, і добрага, прыгожага. І сярод гэтага ўсяго мне іншы раз светла і цёп-

# Сцвярджаючы дабрыню

*М. Дукса. Твая пара сяўбы. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.*

Паэт жыве і працуе ў вёсцы. Не, не часта даводзіцца вымаўляць такія словы...

Мар'ян Дукса жыве і працуе ў вёсцы. І дарэмна шукаць у яго кнігах ледзь не традыцыйнага плачу па сцяжынах «басаногага дзяцінства». Вершы яго — добры прыклад паяднання жыцця і творчасці, асабістага судакранання з тым, што складае, што адкладзена і яшчэ адкладваецца ў пласты існага, заўсёднага і адначасова рухомага. Усе зрухі, усе жыццепраявы вясковага няцяжка знайсці і ў новай кнізе М. Дуксы.

Што крывіць душой, ледзь не кожны сярод нас сёння ходзіць з думкай, нават з перакананнем, што толькі жывучы ў сталіцы можна быць абсалютна арыентаваным у часе, знаходзіцца ледзь не ў эпіцэнтры ўсіх грамадскіх падзей і зрухаў. А найбольш правільна гэта называецца — мець магчымасць часцей грукацца ў дзверы рэдакцый. Як часта і нам, і нашаму радку бракуе звычайнай сціпласці! Думае, пэўна, пра гэта і М. Дукса, бо вельмі ж ужо адчувальныя ў яго творах уцёкі ад «складанасці ўяўнай» і «манернасці пустой».

Даўно апынуўшыся ў шчаслівай пары «сяўбы», аўтар не забывае і пра «жніво», а гэта значыць, пра вынік сваёй працы, пра свой творчы набытак:

**На нейкі момант блякне
сінява,
хоць гэты міг і рэдкі
і кароткі...
Мы дажылі да позняга
жніва —
ці тое жнём, што высявалі
продкі?
(«Жніво»)**

«Хай будзе чыстым новае калоссе» — гэтымі словамі заканчваецца праграмны верш паэта. І ў іх, можа, не столькі пажаданне сабе, колькі добры кліч аднагодкам.

Сённяшняя вёска. Якая яна? Што ў ёй перспектыўнага і што не? Шмат дыскусій адшумела вакол гэтых пытанняў за апошнія гады. А пытанні засталіся. Пэўна ж, не «Жыгулі» ды і не сучасныя катэджы вызначаюць твар сённяшняй вёскі, а перш за ўсё—людзі. І калі М. Дукса ў сваёй кнізе запрашае нас на традыцыйную «лаўку пад бэзам», дык бачыцца ў гэтым не спроба расказаць пра людзей даўно знаёмых, а магчымасць засведчыць сваю вернасць жыццёвай праўдзе:

**Тут знаюць усё пра цябе —
не мудры,
даўно за табою ўсе сочаць
вяскоўцы.
Наскрозь цябе бачаць праз
кніжныя слоўцы,
Праз слой каляровы знешняй
кары...
Ты лепей па-людску загавары.**

**Слоў танных і пышных не
сып медзякі.
Усё-ткі жывуць тут тваім
інтарэсам —
ты гэта адчуеш на лаўцы
пад бэзам.
(«Лаўка пад бэзам»)**

У дадзеным выпадку амаль не даводзіцца гаварыць пра лірычнае «я» вершаў М. Дуксы. У яго кнізе жывуць, думаюць, дзейнічаюць людзі, многа людзей, а не адзін аўтар-сузіральнік. І не з пачутага, а з адчутага паэту вядомы іх штодзённыя трывогі, радасці, беды, іх спадзяванні і прадчуванні. Гэта людзі шчырыя і бясхітрасныя, цалкам адданыя сваёй справе.

Не многа слоў спатрэбілася аўтару, каб расказаць пра вясковага пячніка Данілу. Зусім звычайны гэта чалавек, як відаць з усяго, а вось майстэрства рук незвычайнае. Самога майстра ўжо і няма на свеце, але верым мы ў яго існаванне, калі чуем словы вяскоўцаў:

**«Абыдземся без сонца нейкі
час —
пакуль што нас яшчэ Даніла
грэе!»**

Чалавек у вершах М. Дуксы ідзе насустрач другому чалавеку, ідзе са сваёй дабрынёй, спагадай і даверам. Ніхто не прымушае вясковую пенсіянерку кідаць няхітрыя хатнія справы і ісці на праполку. Але як не ўважыць шаноўнага брыгадзіра, якога так паважае ўся вёска, які сам — спагада ды цярпенне?!

**Блін з'еўшы гарачы
са сподка,
кабет напаткаўшы суполку,
увішная, жвавая цётка
усё-ткі ідзе
на праполку.
«Такі чалавек харошы!
Такое ў яго цярпенне...
Іду працаваць не за грошы,
А каб супакоіць сумленне».
(«Вясковая пенсіянерка»)**

Магчыма, я занадта захапіўся «вясковымі» вершамі М. Дуксы. Тут недалёка і да папроку: «А хіба ў жыцці ўсё так замілавана-соладка, а хіба няма ў ім вострых вуглоў, хлусні, крывадушша, здрады?.. І ў той жа самай вёсцы?» Вядома, усё гэта ў жыцці ёсць. І паэт добра пра тое ведае. Але хіба ж не мае права ён сцвярджаць дабрыню дабрынёй, а крыўду зноў жа апярэджваць той жа дабрынёю?! Спагадлівае і чалавечнае яшчэ раз засведчыў М. Дукса ў вершы, прысвечаным памяці паэтэсы Еўдакіі Лось, — «Спадчына».

Чытаючы кнігу «Твая пара сяўбы», я міжволі спыніўся на вершы «Пакрыўджаны». Размова ідзе пра добрага, але пакрыўджанага чалавека. Мы нават не ведаем, хто яго пакрыўдзіў. Нідзе ў вершы аўтар пра гэта не гаворыць. Ды нам урэшце гэтага і не трэба, калі ёсць словы звароту да нас, людзей:

**Пакрыўджаны, ён прагне
нашых стрэч,
яму насустрач, людзі,
паспяшыце.
Здыміце камень яму цяжкі з
плеч,
паверыць зноў у вас
дапамажыце.**

М. Дукса часта бывае стрыманым у сваіх пачуццях, дзесьці нават не дагаворвае, а то перакладвае недагаворанае на неабцяжараны досціпам вобраз. Наогул з фарбамі і дэталямі ён даволі ашчадны. Не думаю, што гэта вопыт, хутчэй

ла згадваюцца нашы бяскрайнія лугі ў раскошнай квецені, ціхая, чыстая рэчка **майго па**чатку. А ў гэтай рэчцы, у павольнай, ласкавай у паўдзённую спёку вадзе плыве наша быстрая красуня, наша работніца Каштанка. Шчасліва, вольна плыве, толькі папырхвае над вадой, выцягнуўшы крутую шыю, *храпай нібы п'ючы* тую ваду, нібы гулліва цмокаючы асцярожным пацалункам. А побач з ёю плыве яе першы сынок. Такі яшчэ нясмелы, што мне прыйшлося піхнуць яго з берага ў ваду, такі яшчэ безабаронна трапяткі, а ўжо так *хораша, адразу так свабодна*, сам па сабе ўмеючы тое, чаму мы, людзі, змалку і часамі доўга вучымся.

З павадамі ў руцэ я плыву побач з маткай і сынам. Таксама шчаслівы».

Пластычнасць і маляўнічасць прозы Я. Брыля, яе эмацыянальнасць неаднаразова адзначаліся нашай крытыкай і літаратуразнаўствам. Не з'яўляецца вялікім адкрыццём спроба падкрэсліць у кнізе «Сёння і памяць» і такую ўласцівасць твораў пісьменніка, як іх асацыятыўнасць. Лірычная проза заўсёды ў значнай ступені псіхалагізаваная, яна неаддзельная ад асобы (і нават ад псіхікі) аўтара. Мастацкая асацыяцыя можа ўзнікнуць і на ўзроўні падсвядомага, калі табе, захопленаму хваляй знаёмых гукаў, фарбаў ці пахаў бывае дастаткова заплюшчыць вочы, каб ператварыцца ў сябе колішняга: «Учора ўвечары, на праходцы, хацелася запісаць, што ячмень, трохі пажаўцелы ўжо, надсыр пасля бясконцых дажджоў, пахне соладка з нейкай іржавінкай. Як і жыта калісьці мне пахла, у маладосці, пра што я, здаецца, пісаў».

Асацыяцыі — госці наравістыя, маглі б падацца і вычварнымі, калі б не збівала з іх лішак «сур'ёзнасці» аўтарская ўсмешка: «Дарэчы, учора, гледзячы на Вялікую Мядзведзіцу, успомніў Мележа, як аднаго з тых, каго ўжо няма, а каля свежай, удала высушанай (пасля доўгіх дажджоў — пагода) і сапраўды духмянай капы — Твардоўскага прыгадаў: «калі арыгінал — расквітнелы луг, дык пераклад — сена». Не зусім дакладна, але блізка.

Калі ўжо бэрсаць далей, дык — у сувязі з неабходнай нашаму брату дакладнасцю, — *панюхаўшы капу*, успомніў абмеркаванне «Пушчы» Віці Карамазава: як студэнты-леснікі (у тэхналагічным інстытуце) паправілі яго — ласі, аказваецца, сена не ядуць, а ён ім настаўляў (на паперы) стажкоў». Ці не міні-аўтапародыя, з *асабліва цікавым дзеясловам* «бэрсаць», — да ўвагі пераемнікаў па жанры?

Асацыятыўнасць не механічная — якасць з ліку самых каштоўных у мастацтве. Сама вобразная прырода мастацкага мыслення надзяляе асацыятыўнасць прывілеямі: «І так яшчэ прыгожая, яшчэ прыгажэйшай здалася з сярпом на жытняй постаці. З унучкам на адной руцэ, з бітончыкам у другой, я глядзеў на яе з-за высокай, густой крапівы і з-пад плота, а яна ўсміхалася, гаварыла. Неяк святочна гэта па-народнаму — зажынкі, хоць і па-сучаснаму — на сотках у агародзе. «Яна і я» прыгадалася. З хваляваннем». І не назавеш падобную асацыяцыю толькі другаснай, толькі літаратурнай. Класічная паэма тут сама ў вобразе, як частка трывала абжытага асяроддзя, засвоенага нароўні з фізічным, засвоенага і апавядальнікам, і тым, для каго пісалася, — чытачом.

Абжытае намі да звычайнасці, бывае, амаль да незаўважнасці сёння бачыцца невыказна дарагім, і, чытаючы кнігу Я. Брыля, не раз спынішся вось на такім, простым: «...Падвечар. Спорны дождж ішоў ад ранку да позняга поўдня, потым аціх і перастаў. Старая ліпа мокрая, аднак, праходзячы каля яе, спыніўся ад ціхага гулу. Пчолы. Здаецца, пад кожным лісточкам, як пад парасонам. Агромністы зялёны вулей». У цэлым, відаць, час закончыць. Хоць ясна, што гэта якраз той выпадак, пра які сам Я. Брыль напісаў: «Наша любімае «ў цэлым». Можна і так: у цэлым накрыўся дзіравым плашчом». А праз зеўранне дзірак зіхаціць і залатая душэўнасць беларуская, назапашаная пісьменнікам у сваёй кнізе, і роздум над тым, над чым усім прыходзіцца і яшчэ не раз прыйдзецца многа і многа думаць.

**Людміла КОРАНЬ**

---

за ўсё праяўленне індывідуальнага і звыклага.

М. Дукса ў паэзіі працуе ўжо нямала. І кніг каля дзесятка выдаў. Не ўсе з іх, вядома, вытрыманы на аднолькава добрым узроўні. Але яшчэ і ў першых зборніках можна было заўважыць, як настойліва шукае паэт трывалай сувязі з усім тым, што яго акружае.

Самай вострай праблемай нашага часу з'яўляецца пытанне вайны і міру. Быць або не быць — такі гамлетаўскі выбар стаіць перад усім чалавецтвам. Пытанне гэта знаходзіцца сёння і ў цэнтры ўвагі нашай паэзіі. Не бяруся назваць паэта, хто б не звяртаўся ў сваіх творах да гэтай трывожнай тэмы. Ёсць добрыя вершы, а многа і вельмі слабых, дзе рытарычна прамаўляюцца нейкія гнеўныя словы і паўтараюцца вядомыя лозунгі. Я не хачу сцвярджаць, быццам нешта новае ў гэтым сэнсе сказаў М. Дукса. Але мне падабаецца, як звязвае ён трывогу за заўтрашні дзень планеты з будзённымі клопатамі чалавека ў вершы «Прыцемкі». Завяршаецца працоўны дзень, але яшчэ працягваецца будзённы сялянскі клопат: хрумсціць пад нажом капуста, вучыць дамашняе заданне хлапчук, завіхаецца з шытвом бабуля. А далей:

**Гаворыць дыктар аб заяве**
**ТАСС.**
**На пяць хвілін з іголкаю**
**і шпулькай**
**на крэсле прымасцілася**
**бабулька,**
**глядзіць уважліва праграму**
**«Час» —**
**«Хай бы прыехаў Рэйган той**
**да нас!**
**Як варта жыць, спытаўся б**
**у мяне...**
**Адно заладзіў пра сканчэнне**
**свету...»**

Аднак не ўсё ў аднолькавай меры ўдалося М. Духсу ў яго новай кнізе. Ёсць, як кажуць, вершы дзеля вершаў. Асабліва гэта датычыцца твораў інтымнага плана. Ведаючы ранейшыя зборнікі паэта, можна заўважыць, што не пазбягае ён і самапаўтораў.

Верш «Дзівоснае шчасце», — паўтарэнне даўно вядомых ісцін, ды і сама назва не такая ўжо арыгінальная.

Сустракаюцца ў кнізе і хібы моўнага і сэнсавага характару. як такое, напрыклад: «...ад **ясnavokай постаці яе»** (?), ці «і гэты шум праймае шылам душу»; «...звон сэрцабіення». У апошнім выпадку — сумяшчэнне несумяшчальнага. Ды і «сэрцабіення» вымаўлена на рускі лад. Трэба — сэрцабіцця. Здавалася б, дробязі. Тым не менш, у добрай кнізе бачыць іх не хацелася б. А, наогул, сустрэча з новым паэтычным зборнікам Мар'яна Дуксы прыемная. Паэт працуе, смела ідзе на пошук, а таму хочацца верыць у яго новы плён.

**Казімір КАМЕЙША**

---

# Андрэй Ануфрыевіч БЕМБЕЛЬ



Беларускае савецкае мастацтва панесла цяжкую страту. 13 кастрычніка 1986 года памёр член КПСС, народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР, вядомы скульптар і педагог, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Андрэй Ануфрыевіч **Бембель.**

А. А. Бембель нарадзіўся 30 кастрычніка 1905 года ў горадзе Веліжы Смаленскай вобласці. Спецыяльную адукацыю атрымаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме і Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР.

А. А. Бембель — адзін са старэйшых мастакоў беларускага выяўленчага мастацтва. Яго творчасць непарыўна звязана з сацыялістычным будаўніцтвам, станаўленнем і развіццём культуры рэспублікі. Створаныя ім манументальныя творы адлюстроўваюць веліч гераічных перамог савецкага народа, багаты духоўны свет нашага сучасніка. На ўсіх этапах творчага шляху мастак звяртаўся да вобраза У. І. Леніна. Ён стваральнік рада помнікаў У. І. Леніну, а таксама партрэтаў (барэльефаў), бюстаў Ільіча. Як аднаму з аўтараў помніка «Курган Славы», пабудаванага ў гонар Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі, яму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. Ён удзельнічаў у стварэнні мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой».

Многа сіл А. А. Бембель аддаў педагагічнай дзейнасці, выхаваў не адно пакаленне мастакоў. Прайшоў шлях ад выкладчыка да загадчыка кафедры, прафесара Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Педагагічны талент, метадычнае майстэрства, шырыня эрудыцыі дазвалялі яму паспяхова фарміраваць у маладых мастакоў неабходныя прафесіянальныя якасці, высокую грамадзянскасць, актыўную жыццёвую пазіцыю.

Разам з творчай і педагагічнай работай Андрэй Ануфрыевіч Бембель вёў актыўную грамадскую дзейнасць. Ён выбіраўся членам ЦК КП Беларусі, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй праўлення Саюза мастакоў рэспублікі, членам праўлення і сакратаром праўлення Саюза мастакоў СССР.

Заслугі А. А. Бембеля ў развіцці выяўленчага мастацтва адзначаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам «Знак Пашаны», медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Ён удастоен ганаровага звання народнага мастака БССР.

Светлая памяць пра выдатнага чалавека, вялікага мастака, камуніста Андрэя Ануфрыевіча Бембеля назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

**М. М. Слюнькоў, Г. С. Таразевіч, М. В. Кавалёў, Г. Г. Барташэвіч, В. Г. Балуеў, В. І. Борыс, М. І. Дземянцей, У. Г. Еўтух, Ю. Б. Колакалаў, М. І. Лагір, У. А. Ляпёшкін, А. А. Малафееў, В. А. Пячэннікаў, Ю. М. Хусаінаў, У. М. Шуралёў, У. І. Ганчарык, В. В. Гурын, Н. М. Мазай, І. І. Антановіч, М. А. Панамароў, Ю. М. Міхневіч, У. Р. Галко, У. І. Міхасёў, М. Танк (Я. І. Скурко), У. Ц. Гардзеенка, М. М. Яроменка, І. М. Лучанок. В. А. Нікіфараў, Е. М. Кавалеўскі, А. В. Сабалеўскі, З. І. Азгур, М. А. Савіцкі, І. Я. Міско, С. А. Волкаў.**

---

# ЯГО НЕ ЗАБУДУЦЬ НАШЧАДКІ

**Смутак на душы мастакоў нашай рэспублікі. Пайшоў з жыцця выдатны мастак-скульптар, з якім побач працавала не адно пакаленне творцаў — жывапісцаў і графікаў, манументалістаў, скульптараў, прыкладнікоў. Вельмі балюча сёння, што сярод нас ужо няма чалавека, які неаднойчы абіраўся на пасаду кіраўніка Саюза мастакоў рэспублікі і аддаў гэтай справе шмат сіл і клопатаў. Ён да апошняга дня быў камуністам-прапагандыстам нашых ідэй і напрамкаў у сацыялістычным мастацтве.**

**Андрэй Бембель сапраўды быў народным мастаком. Добразычлівы ў адносінах да калег, да сяброў і таварышаў па працы, і гэтая рыса ягонага характару рабіла яго па-чалавечы простым, збліжала з мастакамі і аматарамі выяўленчага мастацтва.**

**Андрэй Ануфрыевіч пакінуў пасля сябе творы, што захоўваюцца ў карцінных галерэях краіны, помнікі, што стаяць на вуліцах і плошчах гарадоў. След яго застаўся і ў творчасці вучняў выдатнага скульптара. А выхаваў ён нямала добрых мастакоў, сярод якіх імёны Анатоля Анікейчыка, Льва Гумілеўскага, Валянціна Занковіча і многіх іншых майстроў разца. Сёння яны смуткуюць разам з намі і будуць усё жыццё ўспамінаць тое добрае, што даў ім настаўнік і сябра.**

**Такім быў і застанецца ў нашай памяці гэты рухавы, энергічны, дасціпны чалавек, таленавіты скульптар, аддавы мастацтву сацыялістычнага рэалізму. Андрэя Ануфрыевіча няма побач з намі, але светлай *памяццю яму будзе ўдзячнасць* народа, людзей, якія ўскладуць і праз дзесяцігоддзі жывыя кветкі да Кургана Славы і мемарыяла ў Брэсцкай крэпасці-герої, да помніка У. І. Леніну ў Салігорску і абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску... Яго не забудуць нашчадкі.**

**Заір АЗГУР**

**Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры глыбока смуткуе з выпадку смерці члена камітэта Андрэя Ануфрыевіча БЕМБЕЛЯ, старэйшага беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі.**

---

# ЧАСОПІСЫ Ў КАСТРЫЧНІКУ

## «ПОЛЫМЯ»

**Змешчаны пачатак рамана Г. Марчука «Кветкі правінцыі», камедыя Э. Валасевіча «А ў месяцы верасні».**

**Паэзія прадстаўлена вершамі М. Дуксы, В. Макарэвіча, А. Пісарыка.**

**Пад рубрыкай «З літаратурнай спадчыны» друкуюцца творы заходнебеларускага паэта П. Сеўрука. Прадмову «З рукапісаў, якія не гараць» напісаў Я. Брыль.**

**Да 130-годдзя з дня нараджэння І. Франка прапануецца пераклад яго твораў, выкананы У. Караткевічам і В. Рагойшам. Апошні — і аўтар уступнага слова.**

**Старшыня Камітэта народнага кантролю БССР М. І. Лагір выступае з артыкулам «Пазіцыя — наступальная».**

**«Вернасць» — нарыс Л. Левановіча.**

**Ю. Сохар піша пра работу радыётэатра — «У эфіры — радыёспектакль».**

**Артыкул М. Мушынскага «Літаратурная крытыка і час» мае падзагаловак «Роздум пасля пісьменніцкіх з'ездаў». Г. Каржанеўская разважае аб праблемах беларускага лялечнага тэатра — *«На што здатныя лялькі»*.**

**Новыя кнігі рэцэнзуюць М. Арочка, Я. Янішчыц, А Сямёнава.**

**У раздзеле «Культура мовы» — артыкул А. Каўруса «Мовазнаўчыя аспекты мастацкага твора».**

**Завяршае нумар «Наш каляндар».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**У нумары вершы Л. Забалоцкай, В. Зуёнка, В. Лужкоўскага, А. Лойкі, У. Карызны.**

**Публікуюцца аповесць М. Капыловіча «Падарунак маладым», заканчэнне рамана Л. Левановіча «Шчыглы» і аповесці М. Гіля «Кім і Валерыя».**

**Моладзь і мір — тэма выступлення Л. Лахманенкі «Мы дзеці планеты Зямля».**

**Пра археалагічныя раскопкі расказвае С. Тарасаў — «Спадчына застаецца людзям».**

**Новыя кнігі рэцэнзуюць С. Кавалёў і Э. Ліпецкі.**

## «БЕЛАРУСЬ»

**Публіцыстычны роздум А. Капусціна «У свет, расчынены насцеж» прапануецца пад рубрыкай «Актуальны погляд».**

**«Хада падзей» — чарговая падборка навін жыцця рэспублікі.**

**Пра вопыт беларускіх чыгуначнікаў разважае В. Вялеська — «Кіламетры паскарэння».**

**Публікуюцца вершы Л. Галубовіча, В. Акулавай, В. Шніпа, А. Пісарыка; апавяданні М. Гіля і П. Кавалёва.**

**Штрыхі да творчага партрэта архітэктара Л. Левіна напісаў Р. Новікаў — «Набат памяці».**

**Нарыс А. Махнача «Ля родных крыніц» прадаўжае рубрыку «Зямля, адкуль родам».**

**С. Кухараў успамінае пра М. Паслядовіча — «Дзядзька Макар».**

**Пра творчасць А. Кудраўца разважае І. Навуменка — «На хвалі хуткаплыннай сучаснасці».**

**Апавяданне Р. Брэдберы «Ціхай летняй парой» пераклаў С. Дорскі.**

## «НЕМАН»

**Аповесці М. Гарэцкага «У чым яго крыўда?» (пер. І. Клімашэўскай) папярэднічае прадмова М. Мушынскага «Веліч таленту», у якой разглядваецца жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. Проза прадстаўлена таксама апавяданнямі У. Арлова, В. Дайліды (пер. М. Атаевай), Б. Казанава.**

**Часопіс пачынае знаёміць чытачоў з лепшымі ўзорамі беларускага народнага гумару (складанне і пер. М. Валошкі).**

**Змешчаны нізкі вершаў «Удзячнасць» Э. Агняцвет (пер. Ф. Яфімава), «Заакіянскія замалёўкі» У. Карызны (пер. В. Тараса), падборка твораў шэрагу аўтараў «З паэтычных сшыткаў».**

**«Як дапамагчы моцнаму» — публіцыстычны роздум В. Бяліцкага і С. Ваганава.**

**«Вяртанне» — успаміны П. Лебедзева.**

**Г. Махаева ў артыкуле «Другое жыццё вобраза» разважае аб сцэнічным увасабленні твораў В. Быкава і І. Чыгрынава.**

**«Цяжкая сталасць» — артыкул П. Дзюбайлы ў сувязі з 75-годдзем з дня нараджэння М. Лобана.**

**Я. Крупенька, Ф. Яфімаў, М. Сердзюкоў дзеляцца ўражаннямі ад кніг «Ранішнія сны» М. Гіля, «Цана цішыні» В. Жуковіча, «Пры святле расстанняў» Т. Гарэлікавай.**

**Завяршаюць нумар раздзелы «Учора. Сёння. Заўтра» і «Хроніка «Немана».**

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ

# Я паехаў з вёскі...

**АНТАНОВІЧ Каця, абліцоўшчыца, 29 гадоў**

З сям'ёй усё роўна дзе жыць, нават у вёсцы, напэўна, лепш. А адной у горадзе лепш. Тут цябе ніхто не ведае, ніхто не пытаецца, чаму ты адна, калі табе амаль трыццаць гадоў. У вёсцы жахліва проста, як было б сорамна, як бянтэжыўся б, там усім цікава: куды ты пайшла, з кім, што ў цябе? Ты там ува ўсіх на вачах, кожны твой крок, а не заўсёды жыццё складзецца так, як хацелася: хай іншыя паглядзяць. Я вам нават скажу, што я не тое што жыць, я саромлюся ездзіць дамоў на выхадныя, таму што ўсе пытаюцца: «Каця, ты зноў адна, чаму цябе замуж не бяруць?» У мяне сяброўка нарадзіла дзяўчынку, нарадзіла без мужа. Яна паўгода пажыла ў вёсцы, і ўцякла, не было сіл трываць. А тут яна жыве сабе спакойна і нікому не карціць, што ў яе за дзяўчынка, ад каго. У горадзе яна сябе чалавекам адчула. Гэта вельмі шмат значыць. У цябе зусім іншы настрой, а там нават адчуванне непаўнацэннасці можа ўзнікнуць. Тут, я мяркую, мне проста не шанцуе, што я пакуль не сустрэла чалавека, якога змагу пакахаць, і ён мяне не знайшоў, а ў вёсцы лічылася б, што я ці занадта ганарлівая, ці кім сурочаная. Так бабы маме кажуць... Я дамоў праз гэта не езджу...

**КРАЎЧУК Галя, стаматолаг, 29 гадоў**

Я паехала па накіраванні ва ўчастковую бальніцу і не падумайце, што з думкаю: любым чынам, але назад у горад. Магла і там застацца, калі б было добра. Няпраўда гэта, моладзь не хоча ехаць у вёску, таму што баіцца цяжкасцей. Трэба глядзець глыбей.

Прыехала я на ўчастак. Вёска вялікая, зубнога ўрача гадоў пяць не было. Бальніца ў былой памешчыцкай канюшні, цёмная, халодная будыніна, можаце сабе ўявіць. Стаіць у мяне ў кабінеце бормашына, праўда, не нажная, а ўжо электрычная, і ўсё. У інстытуце нас вучылі самым сучасным метадам, на самым сучасным абсталяванні. Нам гаварылі: «Карыстайцеся рэнтгенам...» «Выкарыстоўвайце электраадантадыягнаст» (гэта спецыяльны прыбор для высвятлення дыягназу — жывы зуб ці не жывы, які працэс адбываецца ў ім?). Нас так настроілі. Нам жа ніхто не сказаў, што рыхтуйцеся — там, куды вы паедзеце, нічога гэтага няма.

Вось... Бачыце? Гэта пульпаэкстрактар. Каб залячыць хворы зуб, трэба выцягнуць нерв, без пульпаэкстрактара ты гэтага не зробіш. Каб запламбіраваць канал, патрэбна іголка Мілера, патрэбны дрыльборы... Самае элементарнае, а на ўчастку ў мяне гэтага не было, не кажучы пра нешта там навейшае. Чым я магла лячыць? Прыйдзе жанчына з распухлай шчакой, і я толькі адно магу — вырваць хворы зуб. Лячыць няма чым, а яна за пяць кіламетраў прыехала ці па гразі прыйшла. Я рву гэты зуб, і мне сорамна, як спецыялісту. Яна раскрые рот, там паловы зубоў няма, таму што вось так прыедзе, урач пакруціцца-пакруціцца, лячыць няма чым, а што рабіць? — вырве. А жанчына ж маладая.

Трэці год я ледзь дарабіла. Атрымліваю часопісы, газеты медыцынскія, чытаю і бачу, што забуду ўсё, дыскваліфікуюся, бо веды мае тут зусім без ужытку. А пагаварыць з кім? Раз у тыдзень з'езджу ў райцэнтр, пакуль там былі маладыя муж і жонка, таксама стаматолагі. Але яны праз два гады паехалі. Ён вельмі сур'ёзны спецыяліст, залатыя рукі, яму не было развароту. У райбальніцы тая ж праблема — слабае матэрыяльнае аснашчэнне.

Яны паехалі, я засталася. Жыву ў бабулькі, хата вялікая, але няўтульная, нязручная: кухня і вялізны пакой, асобнага кутка ў мяне няма. Памыцца няма дзе. Тэлевізіра ў бабулькі, вядома ж, няма. Сцямнее, яна на печ лезе ці да суседзяў. А я? Нейк няёмка ўсё-такі ўрачу хадзіць па хатах, яны, напрыклад, глядзяць кіно, а мне хочацца балет ці музыку паслухаць. У клуб таксама не пойдзеш. Па-першае, там моладзі майго ўзросту няма, а па-другое, хто цяпер з маладых у вёсцы застаецца? Ёсць дзве настаўніцы, але яны, як і я, сядзяць дома, а ў выхадныя дамоў едуць. Не хочацца нават расказваць... Пайшлі ў клуб, п'яны механік ідзе пасля кіно праводзіць. Не трэба, прашу. «Падумаеш, цаца! Заўтра геаграфічку правяду!» Ён там першы кавалер на вёсцы, больш нікога няма, каб спецыяліст, з адукацыяй. Усё-такі гэта важна, пагадзіцеся, патрэбны агульныя інтарэсы, нейкія аднолькавыя разуменні. Хто ёсць з талковых хлопцаў, тыя жанатыя. Прыйдуць да мяне настаўніцы, таксама скардзяцца: учора ты яму двойкі ў журнале круціла, а сёння ён сеў на трактар і ўжо кавалер, запрашае ў клубе на танцы. Ён ужо ўхажор. Смешна то смешна, але дзяўчаткам трэба пра сваё жыццё думаць, трэба замуж выходзіць. Ім усім пад трыццаць ужо.

Так што не пішыце, што моладзь уцякае ад цяжкасцей. Я, напрыклад, не ад цяжкасцей паехала, я хацела стаць добрым спецыялістам, а не чэхаўскім Іёнычам. І, чаго тут бянтэжыцца, хацела замуж, хацела дзіця мець. Я сваёй віны не адчуваю. Была б добрая вёска, былі б умовы для работы, для жыцця, я засталася б. І многія засталіся б. Упэўнена. Мы ж сустракаемся, гаворым пра гэта.

**КРЫВЕНЯ Сяргей, экскаватаршчык, 24 гады**

Нас двое братоў, блізняты мы. Да арміі два гады ў калгасе і пасля арміі два гады. Бацька — на будоўлі, мы — на трактары, на камбайне. Жыць можна. Дом яшчэ адзін паставілі.

Пакуль днём працуеш — усё ў норме. Вечарам прыйшоў дамоў, памыўся і адно: ці спаць, ці бутэльку з кім выпіць. Больш няма чаго рабіць, асабліва зімой. Клуб ёсць, але клуб пусты, таму што моладзі няма. Прыедзе маладая настаўніца, а ў нас вайсковая часць, праз паўгода — хоп! — і няма яе, ужо замуж выскачыла. А больш нікога. У нас ні бальніцы, ні сталовай, адна васьмігадовая школа.

*А дзе дзяўчаты, з якімі вы разам вучыліся?*

У горадзе... (Смяецца). Яны — у горадзе, і мы — у горад, так выходзіць.

*Дзе тут жывяце?*

На кватэры. У нас інтэрнат праз год даюць.

*Чым займаецеся ў вольны час?*

На танцы ходзім, у парк. У выхадны дзень — у рэстаран. У горадзе весела... Дзевак навалам...

Два дамы паставіў наш бацька. Першы, дзе выгадаваў нас яшчэ, моцны, вялікі — жывуць там цяпер яны ўдваіх з мамай. Другі, што будаваў для нас, стаіць пусты. Бацька сена там склаў...

**ГУЗОЎСКІ Уладзімір, вучань токара, 22 гады**

Стаю на аўтобусным прыпынку і бачу: паўзе па тратуары божая кароўка. Столькі людзей, а яна паўзе. Я яе ціхенька мысом пад лаўку, дык не — не сядзіць. Азіраюся, каб ніхто не бачыў, падымаю яе, у кулак і панёс у сквер на траву. Шкада...

Бацька ў мяне ляснік. Пісьмы піша, кліча дамоў. А мне сумна ў лесе...

**ВАЛЕІНЯ Аркадзь, мантажнік, 25 гадоў**

Я ў дзевятым, здаецца, класе вучыўся (задумваецца), ну, так, у дзевятым... Прыехаў у водпуск дзядзька з сынам. Сяргей футбол днямі ганяе, а я іду з мамай на ферму. Думаеце, не крыўдна, што ў іх там у горадзе плавальны басейн, Дом піянераў (ён расказваў, яны там лобзікам выпільваюць, выразаюць), а я да вечара з мамай лён сцялю, буракоў дзялянку дадуць... Ён — у бацінačках, я — у гумовіках, ён — па асфальце, я — па гразі. «Не,— думаю,— паеду ў горад. Там выхадныя ў людзей ёсць, там чыста...»

**СТРЫЖАНЬ Галя, тынкоўшчыца, 23 гады**

У нас не бедны калгас, не. Багаты. Але ўсё роўна ніхто не хоча ісці рабіць у калгас. На завод пайшлі б, а ў калгас не. Пабудавалі б у нас кансервавы завод, я б сама пайшла туды працаваць. Торфзавод ёсць... На торфзаводзе ніхто не хоча рабіць, там работа пыльная, пасля змены людзі ідуць чорныя, як брыкет. Застаюцца дома з маладых толькі тыя, у каго маці адна, няма на каго пакінуць. А за мной яшчэ тры браты заставаліся, я паехала, ад сяброва к рашыла не адставаць. Паступала ў радыётэхнічны тэхнікум, правалілася, вядома. Было шмат гарадскіх, у іх, канечне, веды лепшыя, чым у мяне. Колькі нас было вясковых, усе адсеяліся.

Што, думаю, рабіць? У вёску вяртацца сорамна і позна, у дзевяты клас ужо кнігі разабраны, а самае галоўнае, што сорамна: я ўсім заявіла, што еду ў горад, буду паступаць. Даведалася аб наборы ў будаўнічае вучылішча. Была б смялейшая, я не пайшла б у гэтае вучылішча, не падумаўшы, а так, разумееце, першы раз у горадзе, разгубілася і выбрала, што трапіла на вочы першае.

Пяць гадоў працую па спецыяльнасці. Тынкоўшчыцай. Работа вельмі брудная, я скора буду звальняцца. Усю дарогу з растворам, з насілкамі, хоць і тэхніка, але без нашых рук нічога, усё трэба рабіць сваімі рукамі. На будоўлі скразнякоў шмат, хварэю часта. І мама на мяне сварыцца, што працую на будоўлі, піша, каб пераходзіла на лягчэйшую



работу. Я сёлета якраз дзесяць класаў вячэрняй школы скончыла.

*Дзяўчаты на будоўлі не затрымліваюцца?*

Сёй-той затрымліваецца, ёсць такія, што па дваццаць пяць гадоў працуюць. Гэта хто любіць сваю спецыяльнасць, а так людзі пераважна прыходзяць на будоўлю з-за кватэр. А я і на чаргу не станавілася, мне адразу работа не спадабалася, я з самага пачатку думала, што не буду тут доўга. Але то сяброўка ўгаворыць, то яшчэ штось, больш за ўсё мяне трымала, што ў нас весела, заўсёды жарты, заўсёды разам, брыгада маладая. Але большасць дзяўчатак, як толькі атрымліваюць кватэры, пакідаюць будоўлю, пры першай магчымасці пакідаюць. Нават калі вось яна выйшла замуж, а муж стаіць на чарзе, дык яна адразу ідзе з будоўлі. Я вам кажу, работа вельмі цяжкая.

*Нікому з вашых дзяўчатак не падабаецца працаваць тынкоўшчыцай?*

Напрыклад, з кім я працую, дык у нашай брыгадзе нікому з дзяўчатак не падабаецца. З-за кватэры трымаюцца, як я сказала, з-за прапіскі. Куды я ні пайду, нідзе мяне не прымаюць, усюды патрабуюць прапіску. А так хочацца знайсці якую-небудзь работу, каб у халаце пахадзіць, а то ўсё ў гэтай бруднай робе.

*Якую работу вы сабе шукаеце?*

Чысцейшую, хай і цяжка будзе, але чысцейшую. Нават на гадзіннікавым заводзе згадзілася б працаваць, там дзяўчаткі ў халацiках, на галаве белыя касыначкі. Я хадзіла да начальніка бюро па працаўладкаванні нашага раёна, ён мне паабяцаў, што знойдзе работу чыстую на сто дваццаць рублёў.

**БРУЯК Жанна, краўчыха, 29 гадоў**

Мая мама дваццаць гадоў даярка. Дваццаць гадоў яна ўстае штодня ў тры гадзіны і ідзе на ферму, прыбяжыць з фермы, туды-сюды па гаспадарцы. У адзінаццаць гадзін зноў ідзе на ферму і да абеду. У абед прыходзіць дамоў, дзе ёй пасядзець — з парасятамі, курамі трэба ўхадзіцца. А яшчэ былі дзеці, а яшчэ сям'я. Пад вечар трэці раз на ферму, і там да самай цемнаты. Прыйдзе ў цемнаце, а яшчэ ў свой хлеў ісці, усё пішчыць, крычыць. У дванаццаць спаць кладзецца, а ў тры ёй зноў уставаць. І так усё жыццё, усе дваццаць гадоў. Бацька ёй дома не памочнік, ён загад-

(Заканчэнне. Пачатак у нумары за 10 кастрычніка г. г.)

# «Свята» — і яго будні

**Палемічныя развагі пра малады ансамбль Беларускай дзяржаўнай філармоніі і народнае музіцыраванне**

СЁЛЕТА ўвесну Беларускае тэлебачанне паказала перадачу пра кампазітара Віктара Помазава, у якой ён, прынамсі, гаварыў: «Для мяне вельмі прыемным фактам было стварэнне ў філармоніі ўпершыню ў гісторыі беларускага народа прафесійнага ансамбля народнай музыкі, які называецца вельмі прыгожа — «Свята». Дык вось, у яго назва — «Свята», а для мяне гэта было асабістым святам, і я ганаруся, што ўжо маю з імі сумесную працу,— гэта музыка да спектакля «Камедыянт» па п'есе Алеся Асташонка».

Мне захацелася пазнаёміцца з гэтым калектывам, схадзіць на канцэрт. Звесткі пра «Свята» даходзілі да мяне па крупінках; аказаліся некаторыя запісы ў фанатэцы Беларускага радыё. Але, як ні дзіўна, колькі ні сачыла за афішамі — ніводнага канцэрта ансамбля ў Мінску за гэты час не сустрэла. Пазней ад удзельнікаў ансамбля даведалася, што такога «касавага» канцэрта так і не было з часу стварэння калектыву ў лістападзе 1984 года.



Кіраўнік ансамбля В. Купрыяненка.



На сцэне — «Свята».

Фота Ул. КРУКА

Пазнаёміцца ж нам усё-такі давялося — у верасні, на канцэртах для інтурыстаў, наладжаных у Палацы культуры чыгуначнікаў. І з першых хвілін выступлення ансамбля, з першых гукаў народнай музыкі ў мяне сапраўды з'явілася адчуванне свята, адчуванне звароту да чагосьці даўно забытага, але вельмі дарагога і блізкага, што жыве недзе ў глыбіні душы. Гучала сапраўдная народная музыка. І невялікі ансамбль, у якім — скрыпкі, кантрабас, цымбалы, гармонік,— нібыта адхінуў нейкую заслону, і адкрылася —як жа граюць і танцуюць у народзе, на вясковых святах, вечарынках, вяселлях. Сапраўды, было адчуванне, што апынулася недзе далёка ў дзяцінстве і пачула даўніх вясковых дзядоў-музык.

З чаго склалася такое ўражанне? Чаму гэты невялікі ансамбль нагадаў народную музыку, быццам нешта даўно забытае, і гэта сёння, калі ў рэспубліцы існуе столькі прафесійных народных калектываў і народная музыка гучыць нават у сімфанічных канцэртах? Думала пра гэта і пачынала параўноўваць працу розных выканаўчых калектываў.

Наш Дзяржаўны народны аркестр даўно ўжо дасягнуў высокага выканаўчага ўзроўню. Праз яго творчасць беларуская музыка выйшла далёка за межы рэспублікі, і не толькі ў чыста геаграфічным сэнсе (маю на ўвазе гастролі), але і ў сэнсе музычнага развіцця, складанасці жанраў і форм. Гэта значыць, народная музыка зажыла ў вялікіх і складаных творах прафесійных кампазітараў, якія, улічваючы спецыфіку гучання народных інструментаў, народных мелодый, арыентаваліся ў развіцці задумы сваіх твораў на класічныя законы, часам набліжаючыся да сімфанічнага гучання. Вядома, гэта радуе і гэта вялікае дасягненне. Думкі, блізкія да такіх, можна выказаць і пра творчасць Дзяржаўнага народнага хору. Што ж датычыць сімфанічнай музыкі, дык там, пры імкненні наблізіцца да народных прынцыпаў развіцця інтанацыйнага матэрыялу, усё ж такі яшчэ часта беларускія кампазітары выкарыстоўваюць народную мелодыю як цытату ў сімфанічнай тканіне.

Усё гэта добра і, бясспрэчна, мае права на існаванне. Але тут у нечым губляецца чысціня і свежасць народнай першакрыніцы, адбываецца адыход ад прынцыпаў самога народнага музіцыравання, ад першапачатковых і простых яго форм. Вось чаму дарагая самабытная манера выканання ансамбля «Свята».

Удакладняю свае думкі ў размове з кіраўніком ансамбля Васілём Купрыяненкам.

— Мы складаем свой рэпертуар толькі з твораў аўтэнтычнага фальклору, прычым абавязкова трэба мець арыгінал таго, як гэты твор гучыць у народзе. Ніякія апрацоўкі, сучасныя расшыфроўкі мы не кранаем.

*— Але ці не абмяжоўваеце вы сябе такім чынам, бо не карыстаецеся тымі багаццямі народнай музыкі, запісы якой выдаюцца ў зборніках песень?.. Няўжо абмінаеце і выдатную серыю «Беларуская народная творчасць» АН БССР?*

— Гэта вельмі добрая серыя, і патрэбная, але нам мала што дае нотны запіс. Нотны запіс не дакладны, ён не можа перадаць манеру выканання, тэмбр, найтанчэйшыя дэталі, якія можна ўспрыняць толькі на слых. На маю думку, у такіх зборніках павінна быць як дадатак гнуткая грампласцінка. Нам неабходна ў першую чаргу фанаграмнае гучанне.

Што ж, сказана вельмі слушна. Бо запісаў аўтэнтычнага фальклору ў шырокім карыстанні амаль няма, тыраж грампласцінак з запісамі беларускіх песень у выкананні этнаграфічных фальклорных калектываў настолькі малы, што нават не ўсе ўдзельнікі гэтых калектываў змаглі іх набыць. А час ідзе. Усё менш застаецца тых бабуль і дзядуль, якія валодаюць сакрэтамі народнага музіцыравання. Моладзь жа занадта шмат увагі надае сучасным рытмам, эстрадзе. Потым і прачнецца настальгія па свайму роднаму, ды толькі ўжо можа быць позна... А ў кансерваторыі выкладанне акадэмічнае, арыентуемся на еўрапейскі ўзровень выканаўчага майстэрства, карані ж свае губляем. А як, калі патрэба ўзнікне, таго ж скрыпача-«акадэміста» перавучваць? Вядома, высокі прафесіянал на слых можа злавіць нейкія асаблівасці манеры народнай, але і вуха яго да гэтага непрывычнае, і псіхалагічна яму цяжка перастройвацца. Ну добра, што цяпер у «Свяце» амаль усе з вышэйшай музычнай адукацыяй, амаль усе фанатыкі сваёй справы, як гэта і павінна быць у такім ансамблі. Але колькі музыкантаў давялося «перабраць», у колькіх гэта не атрымалася — іграць у народнай манеры? Чаму ж не ўвесці ў той жа кансерваторыі, скажам, факультатыўныя заняткі, на якіх бы вывучалася менавіта народная манера ігры на розных народных інструментах, народнага спявання?

Вяртаюся думкамі ў канцэртную залу. Гучыць цудоўны «Палескі вальс», мелодыя яго ўвесь час расквечваецца, струменіць, мудрагеліста змяняецца. Звяртаю на гэта ўвагу Васіля Купрыяненкі.

— Я часта задаваў сабе пытанне, чаму ў народнай музыцы, якую мы вывучаем, адсутнічае мелізматыка, чаму такія спрошчаныя рытмічныя структуры? Калі я заняўся аранжыроўкай твораў для нашага ансамбля, дык пачаў працаваць з фанаграмнымі запісамі народнай музыкі — гэта ж такое багацце! У народзе, колькі б ні паўтаралася мелодыя — яна ўвесь час рытмічна вар'іруецца, упрыгожваецца мелізмамі — гэта проста цуд. А ў нас часта застаецца ад народнай музыкі адзін шкілет, і яго яшчэ пачынаюць некалькі разоў туды-сюды ганяць! Гэта няправільна.

*— Дарэчы, самае крыўднае, што бываюць такія адносіны да народнай музыкі ў народных самадзейных калектывах.*

— А справа ў тым, што мясцовыя аддзелы культуры дрэнна працуюць у гэтым кірунку, не вывучаюць музычнае багацце, якое жыве ў іх рэгіёне. Большасць самадзейных калектываў (я не гавару пра этнаграфічныя: тым, як кажуць, сам бог наканаваў спяваць і граць сваё, мясцовае) выконваюць, як правіла, не сваю, мясцовую музыку, а тое, што яны ўзялі з рэпертуару сталічных прафесійных калектываў, з выдадзеных рэпертуарных зборнікаў. А ўзяць тое, што побач ляжыць,—не: няхай фальклорныя экспедыцыі, зноў жа, са сталіцы, прыязджаюць, шукаюць.

Так, шмат мы гаворым пра развіццё фальклору, пра ўздым мастацкай самадзейнасці, але не заўжды заўважаем, як багата тут яшчэ праблем, як добрая справа часам ператвараецца ў мерапрыемства «дзеля птушачкі». Узнікае самадзейны калектыў, спявае патрыятычныя песні, некалькі рускіх народных, беларускіх народных (ды з ужо гатовых зборнікаў, прапанаваных выдавецтвамі). І атрымліваецца, што шмат калектываў падобныя адзін да аднаго, як блізняткі, бо нічога арыгінальнага ў сваім абліччы не маюць. А што, як не мясцовы, свой рэпертуар, у першую чаргу, дапаможа вызначыць гэтае адметнае аблічча?

Парадавала мяне выступленне ансамбля «Свята» і знаёмствам з многімі беларускімі народнымі інструментамі. Ну, жалейку я чула і ведала і раней. Але, памятаючы факсімільнае выданне Купалавага зборніка вершаў, не магла зразумець: чаму на вокладцы кніжкі жалейка нагадвае простую драўляную дудачку, а ўсе сучасныя, якія даводзілася бачыць і чуць, — з рожкам на канцы? Цяпер ведаю, што ёсць і тая, і другая, што асноўная, сапраўдная беларуская жалейка рабілася цалкам з сасны. Ведаю цяпер, як выглядае дуда беларуская, што ёсць музычныя інструменты з саломкі, з балотнай травы, што можа граць нават маленькі гліняны гаршчок — акарына.

— У нас ёсць інструменты, якія амаль нідзе не выкарыстоўваюцца. Мы супрацоўнічаем з майстрам Вячаславам Пратасевічам, набылі ў яго сапраўдную беларускую жалейку, дыятанічныя цымбалы, саломкі, кмены, дудкі. Ёсць інструменты іншых майстроў. Але і ў нас ёсць далёка не ўсё, некаторыя інструменты мы не паказваем з-за іх нізкай якасці: і ў народнага майстра не заўсёды ўсё атрымліваецца — гэта ж залежыць і ад надвор'я, і ад ураджаю, ды і належныя дакладныя вымяральныя прыборы ў народнага майстра не заўсёды ёсць.

Падумалася, а чаму ў такой багатай народнымі традыцыямі, разнастайнымі народнымі інструментамі рэспубліцы, як наша, не стварыць пры Міністэрстве культуры акустычную лабараторыю, дзе на прафесійным узроўні з дапамогай сучасных тэхнічных сродкаў рабілі б разнастайныя народныя музычныя інструменты і забяспечвалі імі і прафесійных і самадзейных музыкантаў? Як бы расквецілася, заззяла свежымі фарбамі іх гучанне!

Дарэчы, пра акустыку. Калі некалькі разоў слухала выступленні ансамбля «Свята» ў канцэртнай зале — расла незадаволенасць працай гукарэжысёра В. Астахава. То не паспявае ўвесці мікшэрам мікрафон уступіўшага вакаліста, то так «выставіць баланс», што, акрамя гармоніка, нічога не чуваць. Прыкра было, крыўдна за музыкантаў, якія, я ўжо гэта ведаю, могуць самі добра збалансаваць сваё гучанне.

— Мы ведаем пра гэта, і нам здаецца, што для ансамбля народнай музыкі неабходна альбо зала з добрай акустыкай, дзе б ансамбль гучаў натуральна, альбо самая лепшая апаратура...

Я да гэтага дадала б — неабходны і гукарэжысёр з музычнай адукацыяй альбо, па меншай меры, з музычным слыхам.

У канцы апошняга «інтурыстаўскага» канцэрта «Свята» здзівіла песняй «Выйду ль я на улицу». Слухала беларускі варыянт і прыгадвала, што некалі, знаёмячыся з рускай народнай песняй, звярнула ўвагу на тое, што ў рускім тэксце ёсць беларусізмы.

— Мы ў ансамбль узялі гэтую песню ад народных выканаўцаў вёскі Тарканы Калінкавіцкага раёна, чулі іх выступленне па тэлебачанні і запісалі. Мы не будзем сцвярджаць, які народ больш мае правоў на гэтую песню — рускі ці беларускі. Думаю, што нават музыказнаўцы гэтага сцвярджаць не будуць. Мы так лічым: калі песня бытуе ў народзе, значыцца, і мы можам яе выконваць. У нас ёсць і іншыя такія прыклады музычных узаемасувязей розных народаў — песня «Ой, за гаем, гаем», якая бытуе на Палессі і лічыцца ўкраінскай. А нядаўна, калі мы выступалі ў Эстоніі пад час правядзення Дзён літаратуры і мастацтва Беларусі, высветлілася, што беларуская полька «Какетка» ў Эстоніі існуе як «Лілле-полька». Як ні дзіўна, але факт.

Узнікалі яшчэ некаторыя пытанні ў час канцэрта і ў размове з В. Купрыяненкам: як захаваць народны голас, вакал, народную манеру спявання, не перайначваць яе на акадэмічны лад; як захаваць народны танец — калі інструментальны найгрыш і песню можна хоць прыблізна запісаць нотамі, успрыняць на слых па фанаграмным гучанні, дык як занатаваць і захаваць для нашчадкаў малюнак народнага танца?

Узнікалі думкі і пытанні... Узнікалі і радавалі ўжо тым, што яны акрэсліліся і выявіліся. І хоць зноў стала зразумела: не ўсё яшчэ ў нас добра ў справах фальклору,— з'явілася надзея, што калі пытанні ўзнікаюць — яны рана ці позна павінны вырашацца.

Людміла МАКАРАНКА

## ПЕРАКЛАДЫ

Вершы выдатнай армянскай паэтэсы Аршалуйс Маргар'ян — вершы свежыя, як горны вецер, па-жаночы чулыя і грамадзянскія, што ў сваім спалучэнні дае той цудоўны сплаў, якім вызначаецца сапраўдная паэзія. Я спрабаваў некаторыя з іх перакласці, хоць, напэўна, з недаравальнымі пралікамі, бо нават самы лепшы пераклад — руіна, з якой цяжка вычараваць усё харaство арыгінала.

Максім ТАНК

**Аршалуйс МАРГАР'ЯН**

### Камітас

Ён быў крыштальных песень ручайком.
І ад жывых ягоных пераліваў
У садзе веснім пад маім акном
Заўсёды буйна расцвіталі слівы.

Ён вечнага народа быў тугой.
Што слалася квяцістымі лугамі,
Ён быў Араксам—смутнаю ракой,
Напоўнены Арменіі слязамі.

Наіўная, шалёная
Бягу я да цябе.
Як дзіцянё
На полымя.

Наіўная, шалёная
І ад цябе бягу,
Як дзіцянё,
Што апаліла рукі.

### Ці, можа, я так хачу

Твае хмельныя вочы глядзяць на мяне,
Ці мо я так хачу, каб было?

Ты так чула чаруеш і вабіш мяне,
Ці мо я так хачу, каб было?

Подых мой ты шукаеш у кветках вясны,
Ці мо я так хачу, каб было?

Маё імя палае на вуснах тваіх,
Ці мо я так хачу, каб было?

### Матчына слова

Зоры пелі ў смузе аксамітнай начной.
Мы пад небам адкрытым ляжалі ў паўсне.
Да душы прытуліўшыся чула маёй,
Напаўжартам спытаўся мой сын у мяне:

— Мама, ты мне скажы, калі б зоркай я стаў,
Калі б зоркай я стаў непрыкметнаю зязць,
Сярод іншых нябесных свяціл і праяў,
Ці змагла б ты мяне адшукаць?

— Будзь ты, перадусім, чалавекам, сынок
І свяці сваім сэрцам заўсёды ў жыцці,
Незгасальна і ярка, а матчын мой зрок
І ў Сусвеце цябе зможа лёгка знайсці.

Толькі б імя тваё прамянела заўжды,
І на свеце ты дзеля святла існаваў,
І насіў яго, берагаючы, ты,
І ўсяму свету шчодра яго раздаваў.

### Майму беларускаму другу

Дазволь далучыцца
Да мар беласнежных тваіх
І разам лунаць
Па бясконцых міжзорных шляхах,

Адкуль казачным
Гэты здаецца сусвет
А Шлях Млечны — прасторам,
Што ўкраў белы снег.

Хачу з тваім вобразам, дружа,
Застацца адна
Ля камняў Хатыні,
Ля жаху і смутку яе,

Калі, як пагаслае сонца,
У дрыготкіх руках,
Узняўшы вышэй зор,
Нясе бацька сына свайго.

Чуючы гул несціханы
Хатынскіх званоў,
Спапялелае неба
Вісіць саванам-палатном,

І на ім — адлюстроўваецца
Гора ўсё.
І бачу касмічны
Ізноў генацыд.

Ізноў, раненага,
Бачу дзеда свайго.
Адкуль? Мо з Хатыні
Вяртаецца ён?

У руках нешта страшнае
У космас нясе.
Попел мо Артапешскіх садоў,
Пад якім

Пахаваны мінулае, і наш дом,
І вясна, і святло.
Ты ж, чамусьці,
Не пішаш, калі

Тут знайшлі мы сябе —
У чым дапамагала нам Хатынь.
І калі гавару пра яе,
Бачу я свой разбураны Ван,

Ашалелы крывавы агонь,
Чую гонгаў жалобных
Трывожныя
Гулы.

На ўвесь свет — белы снег
Падае.
Чыстым ззяннем мяне
Радуе.
Астывае ралля,
Цешыцца,
Стомленая зямля
Песціцца.

Верхавіны скал, гор —
Стылыя,
Снег рве неба прастор
Сілаю,

Хоча, узвіхрыўшы даль
Цэлую,
Зямлі ветразі даць
Белыя.

## МАСТАК І ЖЫЦЦЁ

# Спазнаць гісторыю і сучаснасць

**Графічныя аркушы Уладзіміра САВІЧА**

ТВОРЧЫ старт маладога беларускага мастака-графіка Уладзіміра Савіча быў надзвычай шчаслівы. Роўна дзесяць гадоў назад за дыпломную працу — ілюстрацыі да п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта» — мастак атрымаў сваю першую ўзнагароду (дыплом Акадэміі мастацтваў СССР) і быў прыняты ў члены Саюза мастакоў СССР. Такая высокая адзнака сведчыла аб творчай адоранасці студэнта і высокім узроўні прафесійнай падрыхтоўкі, якую дала кафедра графікі нашага тэатральна-мастацкага інстытута. Але гэтае, даволі ранняе, ухваленне магло і сапсаваць маладога творцу — супакоіць, пазбавіць пачуцця самакрытычнасці. На шчасце, адбылося так, што дыплом яшчэ болей заахвоціў да працы, абудзіў нерв творчасці. У адметным мастацкім афармленні маладога творцы адна за адной выходзілі кнігі беларускіх пісьменнікаў, серыі каляровых афортаў. А неўзабаве нарадзіліся цыклы графічных работ «Старонкі дзён векапомных» і «Зямля мая».

Чым жа вабяць новыя працы мастака? Перш за ўсё — акрэсленасцю грамадзянскай пазіцыі і сапраўды высокім мастацкім узроўнем.

**Пафас сацыяльных пераўтварэнняў на яго роднай Койданаўшчыне пераканаўча перададзены ў каляровым афорце «Першы трактар Койданаўскай МТС». Канкрэтная падзея з гераічнай гісторыі Радзімы — стварэнне першай на Беларусі машынна-трактарнай станцыі — знайшла свайго вартага мастацкага інтэрпрэтатара. У кампазіцыі адчуваюцца рэвалюцыйная рамантыка, эмацыянальная глыбіня і шчырасць, гістарычная праўда.**

**Атмасфера суровых будняў выяўлена мастаком багатым арсеналам выяўленча-пластычных і вобразных сродкаў. У кампазіцыі ён яднае розныя па часе пласты гісторыі Беларусі, парушае традыцыйную логіку часу і прасторы, спалучае, здавалася б, несумяшчальнае, дамагаецца новай рэальнасці, сапраўднай верагоднасці — мастацкай праўды. Стрыманы каларыт і дынамічная пабудова спрыяюць раскрыццю некалькіх эрэзаў сацыяльнага развіцця беларускай вёскі. У алегарычнай форме мастак расказвае пра новае жыццё селяніна, у побыце якога стальная машына зрабіла істотную рэвалюцыю, прынесла і надзею на плённую працу і трывалы дастатак.**

Станковы афорт «Бежанцы» прысвечаны подзвігу і пакутам савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Гледзячы на зморaных беларускіх жанок і мацярок, на схуднелыя, пакутлівыя твары дзетак, пазбаўленых маленства, нашу душу працінае трывога за сённяшні дзень, за сённяшні няўстойлівы свет.

Пераможнай вясне сорак пятага прысвечаны тэмпераментна напісаны, пранікнёны пейзаж «Квецень». Матыў веснавога абнаўлення прыроды зліўся з тэмай адраджэння роднай зямлі, вызваленай ад фашысцкіх захопнікаў.

Пафас Вялікай Перамогі стаў лейтматывам аркуша «Дыван Пераможнай вясны» з серыі «Пераможная вясна». Толькі што народныя майстры вырабілі ўзорысты дыван, які зіхаціць і пераліваецца россыпам кветак і лісця, вітае гледача з Перамогай, сардэчна запрашае падзяліць радасць мірнага жыцця. Менавіта творчасць была той першай псіхалагічнай разрадкай нашага народа пасля нечалавечага напружання вайны. Светлы, чысты тон пабудаваны з пяшчотных адценняў бэзавага і бурштынавага колераў, стварае адчуванне веснавой празрыстасці паветра. Твор «Дыван Пераможнай вясны», як і іншыя кампазіцыі серыі, знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

Чароўны дар адчуваць шчасце і красу жыцця, здольнасць апавядаць пра яго моцна, на мове сучаснай пластыкі, адметна выявіліся ў цыкле «Зямля мая», які ўвабраў у сябе роздум мастака пра лёс чалавека на зямлі, ролю традыцыі ў сучасным свеце.



У. САВІЧ. Каляровы афорт «Бежанцы» з серыі «Бацькаўшчына-маці».

Зварот да народнага мастацтва — вобразнага адлюстравання гістарычнай памяці народа, дапамог мастаку адшукаць рытмічную пабудову, пластыку і жывапісны строй такіх кампазіцый, як «Свет роднага дому», «Час мёду», «Кліч кані», «Стракатанне коніка», «Вяселле», «Плывуць аблокі», «Аздамічы. Борці».

Праблема асэнсавання месца і ролі чалавека ў свеце, тэма Радзімы раскрываюцца ў кампазіцыях па-рознаму. Але ў кожным выпадку яны сцвярджаюць высокі этычны і эстэтычны ідэал, услаўляюць чалавека працы. У многіх жывапісных творах (Савіч скарыстоўвае змешаную тэхніку — тэмпера з акварэллю) свет паўстае ясным, пабудаваным разумна і гарманічна, сугучным жыццю чалавека.

Вельмі плённая на творчыя здабыткі і кніжная графіка Уладзіміра Савіча. Больш за пяцьдзесят кніг для дзяцей, падлеткаў і юнакоў аформлена мастаком. У кожнай з іх свой вобразна-пластычны ход, які адпавядае ідэйнай накіраванасці літаратурнага твора, узросту чытача. Мастак лічыць, што кніжная графіка, як мастацтва, арыентаванае на масавага гледача, дае магчымасць хутчэй, у параўнанні з мастацтвам станковым, фарміраваць эстэтычны, а ў пэўным сэнсе і сацыяльны светапогляд.

Не выпадкова ён адным з першых мастакоў Беларусі атрымаў дыплом Івана Фёдарава — вышэйшую ўзнагароду Усесаюзнага конкурсу мастацтва кнігі. Адбылося гэта летась. Выданні, аформленыя Уладзімірам Савічам, атрымалі дзесяткі дыпломаў на рэспубліканскіх, міжнародных і ўсесаюзных конкурсах мастацтва кнігі. А ілюстрацыі да рамана Івана Чыгрынава «Свае і чужынцы» прызнаны лепшай працай у галіне графікі, створанай у 1984 годзе. Да такіх вынікаў прыйшло журы Рэспубліканскага конкурсу на лепшую станковую карціну і серыю графічных аркушаў на сацыяльную тэму, арганізаванага Міністэрствам культуры БССР і Саюзам мастакоў БССР у рамках планавых выставак 1984 года.

**У ілюстрацыях да рамана «Свае і чужынцы» Савіч канкрэтна вызначыў і сваю ролю ў кнізе, і задачы, якія стаяць перад ілюстратарам. Ён не абмежаваўся «выяўленчымі каментарыямі» падзей Вялікай Айчыннай вайны, пра якія расказвае пісьменнік, а творча пераасэнсаваў вобразны лад рамана сродкамі энергічнага, вобразна-завостранага малюнка, дасягнуў адпаведнасці малюнка слову. Далучыўшыся да свету, створанага пісьменнікам, мастак прыўносіць свой творчы вопыт, узбагачае кнігу сваім разуменнем ваенных падзей.**

У. Савіч заўжды ўважліва ставіцца да макета кнігі. Дынамічна, лагічна завершаны, ён адпавядае сюжэту літаратурнага твора. Калі на першым форзацы бежанцы накіроўваюцца на ўсход, то на апошнім, яны вяртаюцца ў родныя мясціны. Нават сама прастора графічнага аркуша «працуе» тут на мастацкі вобраз.

Адметная рыса мастацкага стылю У. Савіча — шырокае выкарыстанне ў выяўленчай тканіне графічных кампазіцый дэкаратыўнасці, пачэрпнутай у традыцыйным народным мастацтве беларусаў. Плоскаснасць адлюстравання, арнаментальнасць, стылізацыя форм — гэтымі сродкамі карыстаецца мастак і пры стварэнні ілюстрацый да беларускіх народных казак, і ў станковых жывапісных карцінах.

Серыі графічных аркушаў «Бацькаўшчына-маці», «Пераможная вясна», «Зямля мая» ўслаўляюць мужны характар народа ў драматычныя часіны гісторыі, даюць магчымасць пачуць мелодыю красы нашага краю. У сваёй творчасці У. Савіч сцвярджае ідэал гармоніі, непаўторнасць хараства Зямлі. Свет трэба захаваць для нашчадкаў, нібыта гаворыць мастак. У гэтым свеце павінны панаваць мір і згода.

**Міхась РАМАНЮК,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# БЕЗ КАЗУСАЎ НЕ АБЫШЛОСЯ

Не бяруся ацаніць у поўнай меры прагрэсіўны эфект прайшоўшых на Беларусі Дзён літаратуры і мастацтва Эстонскай ССР. Для мяне асабіста гэта свята. Аднак было б няправільна не зрабіць урока з некаторых недахопаў яго арганізацыі.

Цудоўнае мерапрыемства — Дні культуры братняй рэспублікі. Арганізаваны цікавыя выстаўкі выяўленчага мастацтва, друкаванай прадукцыі. Ідуць спектаклі гасцей, у канцэртных залах гучыць музыка... Але, на жаль, у рамках Дзён не было выстаўкі дасягненняў братняй рэспублікі ў галіне архітэктуры, хоць эстонская архітэктура вартая пільнай увагі і спецыялістаў, і самых шырокіх мас. Шкада. Відаць, экспазіцыя набыткаў архітэктуры не была прадугледжана праграмай.

Ва ўсе часы абавязковай рысай гасціннасці было ўменне гаспадароў пазбегнуць усялякай недарэчнасці, нетактоўнасці, непрыемных сітуацый. Спачатку ўсё ішло цудоўна. Выдатна складзеная праграма канцэртаў мела шырокі анонс, білеты паступілі ў продаж і былі раскуплены... Але якое было расчараванне законных уладальнікаў білетаў, калі яны прыйшлі на заключны канцэрт?! Іх проста не пусцілі ў канцэртную залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі, якая ўжо запаўнялася рэспектабельнай публікай, што прыйшла па бясплатных білетах. У дзвярах замест звычайных білецёрак стаялі дужыя маладыя людзі, якія не абцяжарвалі сябе прабачэннямі, а проста паведамлялі наведвальнікам, што тыя могуць атрымаць свае грошыкі ў касе.

Пагадзіцеся, вы не хацелі б апынуцца на месцы ашуканых меламанаў, якіх ужо два тыдні цешыла перспектыва трапіць на музычнае свята? Свята ў рэшце рэшт нам сапсавалі. Я разумею, бываюць выпадкі адмены канцэртаў з-за хваробы выканаўцы. Нічога не зробіш: неспадзяванасць, ніхто не вінаваты, ніхто не пакрыўджаны. Ды тут — зусім іншае. На канцэрт трапілі не тыя, хто прагнуў трапіць, а тыя, хто, мабыць, і не збіраўся на яго, ды вось атрымаў бясплатна па-святочнаму гожа афармленае запрашэнне... І прадстаўнікі «шырокай грамадскасці», так сказаць, запоўнілі залу.

А на парозе філармоніі замест святочнага настрою панавалі збянтэжанасць, неўразуменне, крыўда.

Пад акампанемент дажджу вярнуліся дамоў, уключылі тэлевізар. У рэшце рэшт хацелася хоць такім чынам замяніць свята. Ды і тут не абышлося без казусу. Трансляцыя канцэрта не была прадумана загадзя. Яе перапынілі перад праграмай «Час» пасярод выканання твора. Гучання хору, які ўдзельнічаў у канцэрце, мы ўжо і не пачулі. Паважаная рэдакцыя музычных перадач, ці можна творы мастацтва рэзаць, як кілбасу?

Такія вось прыкрыя недарэчнасці азмрочвалі свята культуры.

**Галіна ТРУШНІКАВА,**
**архітэктар,**
**выкладчык БПІ**

## ПАСЛЯСЛОЎЕ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ

**27 верасня ў калонцы тэатральна-канцэртнай рэкламы штодзённых нашых газет з'явіліся радкі: «Філармонія. Аб'яўлены на 29 верасня канцэрт АДМЯНЯЕЦЦА. Білеты прымаюцца ў касе філармоніі». Можна было б і не звярнуць увагу на гэтае папярэджанне, калі б у заўтрашніх, за 28 верасня, газетах яно не прагучала больш канкрэтна і грозна: «Аб'яўлены на 29 верасня заключны канцэрт Дзён літаратуры і мастацтва Эстонскай ССР у Беларускай ССР АДМЯНЯЕЦЦА. Білеты прымаюцца...» і г. д.**

**Успрыняўшы такую аб'яву як сігнал пра нейкае «ЧП», супрацоўнік «ЛіМа» тэрмінова пазваніў у штаб Беларускай ССР па правядзенні Дзён. Яго супакоілі: нічога не здарылася, канцэрт адбудзецца, толькі ён будзе закрыты (?!). Ад каго закрыты і чаму? А для каго адкрыты?**

**Супрацоўнік «ЛіМа», каб застрахавацца ад неспадзяванасцей, вырашыў «пабываць» на ўрачыстым закрыцці Дзён з дапамогай тэлебачання. Чым усё скончылася — вядома з ліста нашай чытачкі. На жаль, яна, мабыць, не ведала пра трансляцыю гэтага канцэрта Беларускім радыё: уключыўшы рэпрадуктар, магла б даслухаць Фантазію для фартэпіяна, хору і аркестра Л. Бетховена і пачуць хор...**

**Мы надрукавалі пісьмо Г. Трушнікавай як адзін са шматлікіх водгукаў на тое, што здарылася ўвечары 29 верасня ў філармоніі ці, дакладней, каля яе. Назаўтра ж і ў наступныя дні ў «ЛіМ» звярталіся абураныя аматары сімфанічнай музыкі. І з ліку тых, хто прачытаў аб'яву ў газеце, здаў білет у касу, а потым даведаўся, што канцэрт усё ж быў. І з ліку тых, хто, як аўтар ліста, апынуўся «за дзвярыма» залы. Яны чакалі першага ў новым сезоне сімфанічнага канцэрта. Яны хацелі трапіць на гэты канцэрт. І калі былі б у зале менавіта яны, аматары і знаўцы музыкі, а не выпадковая публіка, дык, дальбог, паўзы паміж часткамі сімфоній не запаўняліся б недарэчнымі воплескамі. Так-так, на канцэрце закрыцця прысутныя шчодра апладзіравалі пасля кожнай часткі твора, тым самым прадэманстраваўшы гасцям сваю эстэтычную нявыхаванасць!**

**Што датычыць трансляцыі канцэрта па тэлебачанні. Нашы госці, выказваючы самыя добрыя ўражанні ад знаходжання ў Беларусі, тактоўна заўважылі, што пры трансляцыі ўрачыстага адкрыцця Дзён адбылася дзіўная для іх накладка: тэлегледачы не пабачылі фінал канцэрта. І хоць можна было запісаць яго і паказаць эстонскім і беларускім гледачам пасля праграмы «Час», гэтага не зрабілі. Улічыўшы прыкры вопыт, госці «ўзброіліся» на канцэрт закрыцця, так што ім не давялося «рэзаць, як кілбасу», фантазію Л. Бетховена: на тэлеэкранах у Эстоніі прайшла праграма «Час» і потым было паказана ў запісе па трансляцыі заканчэнне канцэрта. Мінчане зрабіць гэтаксама чамусьці не парупілі, канцэрт проста «вырубілі» з эфіру, нават не папрасіўшы прабачэння ў тэлегледачоў.**

**Дык хто ж вінаваты, што ў добрай увогуле арганізацыі Дзён аказалася немалая лыжка дзёгцю?**

«ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКІ ВЫНІК?

# «Фраеры» з «рэйха», «герліцы» з «памыйніцы»

Пад такім загалоўкам у № 32 за 8 жніўня г. г. быў змешчаны ліст нашай маладой чытачкі А. Крапіўнай, у якім яна закранула вельмі важныя, надзённыя праблемы жыцця і адпачынку моладзі. Сваю думку пра тое, чаму так востра паўстала сёння гэтае пытанне перад грамадскасцю, выказаў у каментарыі да ліста пісьменнік Валянцін Тарас.

Мы атрымалі адказ ЦК камсамола рэспублікі, а таксама водгук М. Капшая, дырэктара Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода, пра дыскатэку якога таксама гаварылася ў лісце А. Крапіўнай. Сёння рэдакцыя прапануе іх увазе чытачоў.

**Пазнаёміўшыся з публікацыяй у газеце за 8 жніўня г. г., аддзел культуры ЦК ЛКСМ Беларусі лічыць, што ў пісьме камсамолкі А. Крапіўнай «Фраеры» з «рэйха», «герліцы» з «памыйніцы» і ў развагах над ім пісьменніка В. Тараса пастаўлены вострыя пытанні, звязаныя з сур'ёзнымі пралікамі ў ідэйна-палітычным і маральна-эстэтычным выхаванні пэўнай катэгорыі моладзі. Публікацыя газеты была абмеркавана на пасяджэнні бюро Мінскага ГК ЛКСМБ, рэспубліканскім семінары другіх сакратароў гаркомаў, райкомаў камсамола, у маладзёжнай секцыі Саюза кампазітараў БССР. Мы падзяляем ацэнкі, выказаныя аўтарамі, якія датычаць прычын негатыўных з'яў, што існуюць у маладзёжным асяроддзі. У многім яны тлумачацца і фармалізмам у камсамольскай рабоце, недахопамі ў арганізацыі адпачынку моладзі. Разам з тым, лічылі б правільным пры абмеркаванні гэтай тэмы рабіць акцэнт на невысокім узроўні грамадзянскай самасвядомасці некаторай часткі маладых людзей, нежаданні працаваць, спажывецтве, недаацэнцы сур'ёзнасці падобных светапоглядных хібаў з боку бацькоў, навучальных устаноў, камсамольскіх арганізацый.**

**Нямала недахопаў у нашым музычным побыце, не вызначаецца разнастайнасцю і высокай якасцю сучасная маладзёжная музыка, недастатковая ўвага надаецца гэтаму пытанню і зацікаўленымі арганізацыямі: Саюзам кампазітараў БССР, Белдзяржфілармоніяй, аб'яднаннем музычных ансамбляў, абласнымі навукова-метадычнымі цэнтрамі народнай творчасці і міжсаюзнымі дамамі самадзейнай творчасці, якія фарміруюць рэпертуар выканаўцаў і музычных калектываў.**

**ЦК ЛКСМБ ажыццяўляе пэўныя меры, накіраваныя на выпраўленне такога стану спраў. Яны прадугледжваюць дыферэнцыраваны падыход да розных груп моладзі. У камсамольскіх арганізацыях рэспублікі адбываецца абмеркаванне газетных артыкулаў «Жалезная дзева» і яе світа», «Фраеры» з «рэйха», «герліцы» з «памыйніцы», перадачы Беларускага тэлебачання «Урок музыкі», праводзяцца бацькоўскія сходы, у якіх прымаюць удзел камсамольскія работнікі. Праведзены рэйды па выяўленні і раз'ядноўванні груп «рокераў», «металістаў», «хвалістаў» і г. д., якія дазваляюць сабе абуральныя, антыграмадскія паводзіны.**

**З мэтай арганізацыі сур'ёзнай гаворкі пра сучасную маладзёжную музыку ствараюцца музычныя клубы, літаратурна-музычныя гасцініыя. Да 1 студзеня 1987 года ў рэспубліцы закончыцца работа па стварэнні маладзёжных культурных цэнтраў. У большасці гаркомаў, райкомаў камсамола дзейнічаюць «музычныя патрулі», у IV квартале 1986 года пройдзе атэстацыя ВІА і дыскатэк. З 21 па 23 лістапада 1986 года ЦК ЛКСМБ сумесна з Белсаўпрофам, Міністэрствам культуры БССР праводзіць конкурс маладзёжнай песні для самадзейных калектываў і выканаўцаў, намечаны і ажыццяўляюцца іншыя меры.**

**Аддзел культуры ЦК ЛКСМБ удзячны рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» за сур'ёзнае публіцыстычнае выступленне. Хацелася, б каб размова на гэтую важную тэму мела на старонках газеты канструктыўны працяг.**

**М. МАСЮКОЎ,**
**загадчык аддзела культуры ЦК ЛКСМ Беларусі**

# ЗРАЗУМЕЦЬ І ПАМАГЧЫ

**Чытач працягвае размову**

ПРАЧЫТАЎ у «ЛіМе» допіс «Фраеры» з «рэйха», «герліцы» з «памыйніцы». Аўтар пісьма ўздымае надзённае пытанне культурнага адпачынку моладзі на танцавальных вечарах, а дакладней, на дыскатэках. Вось ужо гэтыя дыскатэкі! Калі б не яны, на каго б яшчэ мы ўсклалі віну за ўсе заганныя з'явы, якія бытуюць сярод моладзі?

А чаму б не паглядзець на дыскатэку, як на люстэрка, якое паказвае ўсе ўпушчэнні і агрэхі нашага выхавання?

*Без малога 30 гадоў я працую* ў клубных установах і добра помню, калі танцавалі пад духавыя аркестры. Іх змянілі эстрадныя ансамблі, потым ВІА і, нарэшце, дыскатэкі. Але ва ўсе часы былі свае «чувакі» і «чувіхі», свае кампаніі, а ў іх «каралі» і «каралевы». Часцяком Грушаўка «разлічвалася» са Старажоўкай альбо Камароўкай. Прыйдзе час, дыскатэку зменіць якая-небудзь іншая форма, а карціна застанецца ранейшай да таго часу, пакуль сумніцельныя дваровыя або раённыя кампаніі не будуць выцеснены актыўнымі камсамольскімі групамі са сваімі прызнанымі лідэрамі, культурай мовы і паводзінамі, сваім стаўленнем да адзення, прычосак. Пад іх уплывам пераўтворацца «фраеры» і «герліцы». І акажацца, што, за рэдкім выключэннем, увогуле яны не такія і дрэнныя хлопцы і дзяўчаты, іх «вожыкі» і жаргон — спроба звярнуць на сябе ўвагу, вылучыцца з агульнай масы. Пакуль жа камсамольскія работнікі прыходзяць на дыскатэкі толькі ў ролі правяраючых і актыўных крытыкаў.

У пісьме слушна ставіцца пытанне, чым жа так прываблівяюць маладых людзей дыскатэкі, што вымушае іх гадзінамі прастойваць у чарзе па білеты? Але адказу на гэтае пытанне ў пісьме няма. А адказ вельмі просты. Дзе яшчэ моладзь можа так вольна, без лішняй апекі і заарганізаванасці збірацца? У кафэ, якія ўдзень сяк-так накарміўшы людзей, вечарам зачыняюцца? Мо такія ўмовы ёсць у школах, ПТВ, рабочых ці студэнцкіх інтэрнатах? Засталося яшчэ пазбавіць моладзь магчымасці наведваць дыскатэкі, а такія галасы чуваць з боку некаторых кіруючых таварышаў, і што застаецца для таго, каб сабрацца разам? Падваротня. Бо гэтая катэгорыя моладзі вызначаецца асаблівай актыўнасцю. Пасядзець перад тэлевізарам з рукадзеллем або з іншымі падобнымі заняткамі яна не можа.

Нас шакіруе форма сувязі гэтых маладых людзей? Але ж яна залежыць ад узроўню інтэлекту і выхаванасці. Хто, дзе, калі без фальшу *і навязлівай* павучальнасці даваў ім урокі добрага тону — школа, ПТВ, ВНУ? Няма гэтага ў вучэбных праграмах, і педагогаў па гэтых праблемах ніхто не рыхтуе. На гэтым мы эканомім. А калі і прадугледжаны заняткі *па эстэтыцы і этыцы, то* праводзяцца яны ў большасці сваёй, як адзначаў у сваіх каментарыях пісьменнік Валянцін Тарас, «раўнадушнай, казённай гаворкай па канспектах трыццацігадовай даўнасці» і нічога, акрамя шкоды, не даюць.

І *не трэба* глядзець на гэтую катэгорыю моладзі так, што, маўляў, вы «бякі», а мы культурныя і выхаваныя. Трэба паспрабаваць іх зразумець і памагчы.

У чытачоў, натуральна, можа ўзнікнуць пытанне: «Што вы папікаеце іншых, што зроблена па гэтым пытанні ў вашай культурна-асветнай установе?»

Не ўсё, вядома, зроблена. Але і зроблена многае. Усімі відамі самадзейнай творчасці ў аўтазаводскім Палацы культуры і тэхнікі ахоплена 2,5 тысячы чалавек, паспяхова праводзіцца вучэбна-творчая і выхаваўчая работа. Мы не цураемся ні «цяжкіх» падлеткаў, ні моладзі, схільнай да парушэнняў грамадскага парадку. Вечары, якія праводзяцца для нашых пастаянных наведвальнікаў, праходзяць на добрым узроўні ў плане сувязей, узаемаразумення, адзення і танцавальнай культуры. На дыскатэчныя вечары, якія праводзяцца для горада, сапраўды, прыходзяць маладыя людзі з усіх куткоў сталіцы і кожны раз — розныя. Перавыхаваць іх за адзін ці некалькі вечароў, *фактычна не ведаючы іх,* немагчыма. Неабходны агульныя намаганні і, перш за ўсё, тых устаноў, дзе моладзь жыве, працуе, вучыцца.

Пісьмо пачынаецца са слоў: «Дзед мой распісаўся на сцяне рэйхстага. У маі сорак пятага... *Добра, што дзядуля пра* гэта ніколі не даведаецца, не пачуе ніколі».

Мне здаецца, што ў нас няма падстаў супрацьпастаўляць унукаў—дзядулям. На нашых заводскіх вечарах (ды і не толькі ў нас, мне даводзілася гэта *назіраць і ў клубах санаторыяў,* дамоў адпачынку) моладзь танцуе разам з ветэранамі. Танцуюць часам тыя ж шэйкі і наогул тое, што ніяк неназавеш танцамі. Танцуюць аднолькава і тыя, хто штурмаваў рэйхстаг, і тыя, хто не нюхаў пораху. *Цяжка* зразумець, хто каго пераймае.

Мы ўмеем паказаць свету прыклады гераізму ў барацьбе з ворагам. Нашы дзяды — у Вялікай Айчыннай, унукі — у інтэрнацыянальнай дапамозе афганскаму народу. А хто не шкадаваў жыцця ў часе ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС? Хіба не камсамольцы, моладзь?

Аднаго мы не ўмеем — быць заканадаўцамі моды. На жаль, у многім мы слепа пераймаем Захад: і ў добрым, і, на жаль, у дрэнным.

Што зрабіць, каб гэтага не было? Стварыць стройную і эфектыўную сістэму эстэтычнага і этычнага выхавання, пачынаючы з самага ранняга дзіцячага ўзросту і канчаючы сталым. І пра гэта трэба не толькі гаварыць.

**М. КАПШАЙ,**
**дырэктар Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода**

